# ДЗЕЛЯ СПАЖЫТКУ ДУШЫ

*(Прадмова выдаўца)*

Пра Ватэнштэт, Міхельсдорф* і пра жыцьцё беларусаў у гэтых лягерах ўжо пісалі і ўспаміналі ня раз, у тым ліку і самы "лягернікі". Таксама апісаныя выданьні і кнігі (тут, перш за ўсё, працы БІНіМ), якія выдавалі там беларусы. Вядома і пра лягернае жыцьцё тых людзей. Я лічу, аднак, што напісана яшчэ недастаткова, але мой падыход тут суб'ектыўна-асьветніцкі, і палягае на рэфлексіях у сутыкненьнях з арыгінальнымі выданьнямі таго часу.

Ізноў жа, мой падыход тут не бібліяграфічна-архіўны. Мне хацелася б вярнуць некаторыя працы ў сучаснасьць, каб перанесьці слова і дух мінуласьці ў цяпершчыну і дзеля будучыні.

Гэтак было аддрукавана мной факсімільнае выданьне 1-й кнігі "Мова ў гісторыі Беларускага пісменства" Аўгена Калубовіча і вяртаньне, дакладней, увядзеньне ў сучасную беларускую літаратуру "Парсіваля" ў перакладзе Лявона Галяка (чаго, мне здаецца, сучасьнікі ў падрэжымнай Беларусі, аднак, не зразумелі -- не было напісана пра такую падзею ніводнага слова).

Такімі ж меркаваньнямі прадыктавана і гэтае факсімільнае выданьне арыгінальнага скарочанага перакладу на беларускую мову з ангельскай "Рабінзона Круза" Даніэля Дэфоў. Пераклаў Сьвятаслаў Коўш. Тэкст гэтага няпоўнага перакладу ёсьць у Сеціве, але перавыданьня самой кнігі не было. Цяпер – ёсьць.

У 1929 годзе арыгінальны пераклад Рабінзона Круза зрабіў і выдаў асобнай кнігай у Вільні Ян Станкевіч. Але перакладчык ў Ватэнштэце наўрад ці меў гэтае выданьне.

Перакладчык Сьвятаслаў Коўш -- гэта вядомы беларускі дзеяч і сьвятар на эміграцыі. У Ваттэнштэце было тры групы перакладчыкаў, якія працавалі незалежна, але рабілі агульную добрую справу. Ідэалёгія яе зыходзіла з таго, каб даць беларускай моладзі добрую моладзёвую літаратуру па-беларуску, бо добрая літаратура спрыяе разьвіцьцю асобы, фармаваньню ідэалаў і станоўчаму думаньню. Так зьявіліся за мяжой па-беларуску "Парсіваль", "Маўглі", творы Стывенсана, "Рабінзон Круза" і іншыя. Гэта надта высакародная праца, сэнс якой выдатна ўсьведамлялі разумныя беларусы ў лягерах падсавецкіх уцекачоў.

Такіх лягераў для беларусаў было некалькі. Тут была адзіная сістэма. Два лягеры (у амэрыканскай і ангельскай зоне акупацыі) лічыліся найбольшымі. Гэта Міхельсдорф (некалькі тысячаў асобаў) і самы вялікі -- Ватэнштэт (пяць тысячаў асобаў).

Цікавыя высновы можна зрабіць з агляду жыцьця беларусаў у Ватэнштэце. Уражвае, як у тых цяжкіх, галодных і няпэўных умовах, у бараках за плотам ды дротам беларусы змаглі хутка і добра арганізавацца. Фактычна, Ватэнштэт уяўляў сабой беларускую мікрадзяржаву з выбранай адміністрацыяй, аховай, паліцыяй ідэалёгіяй, з вольным друкам, царквой, аховай здароўя, сістэмнай адукацыяй і культурай. І ўсё дзейнічала: і лягерная ўлада, і лягерная дэмакратыя.

Трэба адзначыць, што ў 70-х гадах пад саветамі таксама зьявіўся "Рабінзон Круза" па-беларуску (перакладчыца Алена Васілевіч). Аднак, гэта быў пераклад не з ангельскага, а з расейскага асобніка. Таму вартасьць яго мы тут не ацэньваем і не апісваем; адзначаем толькі гэтую добрую справу і працу перакладчыцы.

Выбарачны пераклад Сьвятаслава Каўша (перакладзена 10 разьдзелаў), зроблены добрай характэрнай беларускай мовай і арыентаваны, перш за ўсё, на лягерную беларускую моладзь.

Перакладчыкі ў Ватэнштэце -- і Сьвятаслаў Коўш, і Лявон Галяк, і Хведар Ільяшэвіч і іншыя (друкам кніг займаўся Янка Сурвіла) -- разумелі, што на чужыне, у лягерных умовах захаваць беларушчыну ў моладзі дапаможа літаратура ў беларускай мове. Якасная беларуская кніга дапаможа сфармаваць беларускага чалавека, яго беларускеае думаньне, ідэалы, прыхільнасьць да мовы і культуры. Гэтая шчырая праўда пацьверджана гісторыяй культуры і вопытам грамадзтва.

Невыпадкова саветы, агрэсіўныя русіфікатары-бальшавікі так скрупулёзна сачылі за тым, каб нічога не перакладалася з сусьветнай літаратуры на беларускую мову. Тут заўсёды была праблема для падсавецкай беларускай супольнасьці. У 30-я гады за пераклад па-беларуску можна было трапіць у Сібір і нават пад расстрэл. Ужо ў 60-я гады Васіль Сёмуха (выдатны знаўца літаратуры і нямецкай мовы) ніяк ня мог выдаць свой знакаміты пераклад "Фаўста" па-беларуску,

бо была забарона (негалосная, як заўсёды) з боку ЦК камуністычнай партыі БССР. Цемрашалы ведалі, што ім забараняць.

Дарэчы, перад беларускай літаратурай і культурай, якая пэрманэнтна ня можа выйсьці з-пад чужынскага хамскага прыгнёту, стаіць задача велізарнай нацыянальнай важнасьці -- перакласьці знакамітыя творы сусьветнай літаратуры па-беларуску. Вялікасьць задачы беларусы ўсьведамлялі нават у цяжкіх умовах лягеру для ўцекачоў у Нямеччыне і пры мінімальных магчымасьцях стараліся яе вырашаць.

Як і бальшыня выданьняў у "Беларускай мікрадзяржаве Ватэнштэт" "Рабінзон Круза" выдадзены ў мяккай вокладцы друкаваньнем на ратапрынце з машынапіснага тэксту фарматам А-4 на жоўтай неякаснай паперы (якая ўжо рассыпаецца). Прытым выдаўцы стараліся аздобіць кнігу ілюстрацыямі (нешта накшталт малюнкаў -- гэта трэба бачыць).

Разумеючы ўмовы, у якіх працавалі нашыя падзьвіжнікі, гэтае прымітыўнае ручное выданьне (як і дзясяткі іншых, пра што я пішу ў пасьляслоўі, гл. с. 60) пакідае характэрнае ўражаньне, нават больш эмацыйнае, чымся супер сучасны фаліянт на ўльтравыдатнай паперы.

Кніга -- гэта ня толькі пісьмовы зьмест, ня толькі сам па сабе твор выдавецкага мастацтва, гэта яшчэ і адбітак гісторыі эпохі і рэфлексіяў людзей, якія стаялі за выданьнем кнігі.

Асобнік, зь якога зроблены факсімільны друк, таксама мае сваю адметную гісторыю, пра якую я тут хачу адмыслова сказаць. Зьвязана гэта з культурнымі зацікаўленьнямі цяперашняга япіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Ўладыкі Сьвятаслава. Япіскап Сьвятаслаў як адукаваны чалавек паўсюдна зьбірае і ратуе кніжную беларушчыну там, дзе яна нішчыцца і прападае воляю лёсу ці з прычыны абставінаў. Мне ён распавядаў, што прыходзілася знаходзіць беларускія кніжкі нават на сьметніку. У Амэрыцы (і для беларусаў гэта не навіна) бывае, што нават дзеці і ўнукі знакамітых асобаў ужо не размаўляюць і не разумеюць па-беларуску. Беларускія самадзейныя кніжкі, выдадзеныя ў лягерох, зьмест якіх грэў сэрцы бацькоў, ужо нічога не ўяўляюць для некаторых нашчадкаў, аматараў дастатку ды барбэкю на "уікендах".

Так спадчына бацькоў становіцца "гарбічам" і вылятае на сьметнік.

Япіскап Сьвятаслаў назьбіраў у розных месцах і розным чынам ужо тры вялікія скрынкі беларускіх эміграцкіх выданьняў, у тым ліку і рукапісных.

Аднойчы Ўладыка зрабіў выставу сабраных кніг і часопісаў у саборы сьвятога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку. На некаторых людзей экспазыцыя зрабіла вялікае ўражаньне. Зьявілася ідэя -- усе выданьні адсканаваць, каб зьберагчы як факт змаганьне нашай культуры за выжываньне ў цяжкіх умовах на чужыне, як факт жывучасьці беларускіх ідэй і ахвярнасьці нашых людзей.

Свае зборы Ўладыка лічыць належнымі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве. Некалі яны будуць архіўна апрацаваныя і адсканаваныя належным чынам.

Хвала людзям, якія ў вайну, у голадзе пасьля вайны, у лягерах, у нястачы думалі ня толькі пра хлеб, але найперш -- пра Бога, пра беларускія кнігі, пра беларускую мову і культуру. "Рабінзон Круза" -- гэта хрысьціянская кніга, і беларускі сьвятар пераклаў яе для спажытку душы.

Вось думаючы пра тое, я вырашыў аддрукаваць гэтую невялікую працу, у тым выглядзе, у якім яна захавалася, дзеля ўжытку і гісторыі змагарнай нашай культуры.

*25 люты 2017 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

----------------------------

*Найбольш буйныя беларускія лягеры для перамешчаных асбаў на тэрыторыі пасьляваеннай Нямеччыны ў ангельскай і амэрыканскай акупацыйных зонах. Беларусы ў гэтых лягерах не маглі вярнуцца назад на Радзіму і знаходзіліся пад апекай міжнароднай арганізацыі па справах уцекачоў.

ДАНІЭЛЬ ДЭФО



# РАБІНЗОН КРУЗО

ПЕРАКЛАЎ З АНГЕЛЬСКАЙ МОВЫ НА БЕЛАРУСКУЮ
С. КОЎШ

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА ДАПАМАГОВАГА КАМІТЭТУ
ВАТЭНШТЭТ
1947 г.

# Р А З Ь Д З Е Л   П Е Р Ш Ы

## ЯК РАБІНЗОН ПАПЛЫЎ ПЕРШЫ РАЗ НА МОРА І ЯК РАЗЬБІЎСЯ ЯГОНЫ КАРАБЕЛЬ

Даўно, даўно, даўней яшчэ як радзіўся бацька вашага дзеда, жыў у горадзе Ерку хлапец па імені Рабінзон Крузо. Ня гледзячы на тое, што ён ніколі ня бачыў мора, пакуль ня стаў вялікім хлопцам, ён заўсёды хацеў быць мараком і плаваць на караблі ў чужыя далёкія землі; яму здавалася, што калі-б ён змог гэта зрабіць, ён быў-бы тады шчасьлівым.

Але ягоны бацька хацеў вывучыць яго на адваката, і ён часта нагаварываў яго да гэтага і расказываў яму такія жахлівыя рэчы, якія могуць здарыцца з ім, калі ён пойдзе ў сьвет, і, з другой стараны, як людзі, якія застаюцца дома, бываюць заўсёды шчасьлівымі. Ён расказываў яму таксама, як брат Рабінзона пайшоў у сьвет і згінуў у бітве.

Рабінзон пагадзіўся з тым, што ня будзе мараком. Аднак за некалькі дзён непераможнае жаданьне вярнулася ізноў. Ён прасіў маці, каб яна выпрасіла ў бацькі дазвол на ягонае падарожжа. Але маці была вельмі гнеўнаю, а бацька сказаў: "Калі ён кіне дом, дык будзе найбольшым нягоднікам, які калі колечы нарадзіўся. Я не магу даць маёй згоды на гэта".

І Рабінзон астаўся яшчэ некалькі гадоў, пакуль яму ня споўнілася дзевятнаццаць, і праз увесь гэты час ён думаў шмат пра мора. Але вось аднойчы ён паехаў адведаць Гуль - вялікі горад над морам, каб разьвітацца з прыяцелем, які ехаў у Лёндан, і ён ня змог стрымацца перад спакусай спрабаваць шчасьця. Не паведаміўшы сваіх бацькоў, ён зышоў на борт карабля разам з сваім сябрам і паплыў у сьвет.

Але як толькі пачаў дзьмуць вецер і ўзьняліся хвалі, бедны Рабінзон вельмі спалохаўся і захварэў морскай хваробай. Ён заракаўся, што калі яму ўдасца вярнуцца на бераг, дык ён адразу паедзе да хаты, каб больш ніколі не пакідаць яе. Быў ён вельмі маркотны, пакуль ня суняўся вецер. Ягоны сябра і матросы сьмяяліся з яго, называлі яго дурным.

Калі ізноў распагадзілася дый заззяла сонца, ён вельмі хутка забыўся пра ўсё, што думаў аб павароце да сваіх бацькоў. Праз некалькі дзён, калі карабель плыў у Ярмутс Раад у дарозе да Лёндану, яны сталі на котве, каб чакаць спрыяльнага ветру. У тыя дні яшчэ ня было параплаваў, і караблі плылі толькі з дапамогаю ветругаў, калі ж на моры панавала цішыня або дзьмуў няспрыяльны ве-

цер, мараплавам не аставалася нічога іншага, як чакаць на месцы, пакуль пачне дзьмуць спрыяльны вецер. Падчас калі яны ляжалі каля Ярмутс пагода стала вельмі дрэннаю. Пачалася вялізная бура.Мора было настолькі ўсхваляваным, і карабель Рабінзона апынуўся ў такой вялікай небясьпецы, што прыйшлося пазсякаць машты, каб яго аблягчыць і захаваць ад патапленьня. Капітан загадаў страляць з гарматаў, каб даць знаць аб тым, што ягоны карабель патрабуе дапамогі. Лодка з іншага карабля была спушчана, і з вялікім трудам прыплыла, каб забраць Рабінзона і ўсю абсаду карабля ў вапошнюю хвіліну перад яго затапленьнем. Нарэшце, яны дабіліся да берагу,прамоклыя наскрозь і няшчасныя, утраціўшы ўсю вопратку за выняткам тае, якую яшчэ мелі на сабе.

Рабінзон меў у кішані трохі грошай і па сухазёме дабраўся да Лёндану. Ен думаў, што людзі яго асьмяюць,калі ён цяпер вернецца дамоў. У Лёндане ён пасябраваў з капітанам карабля, які нядаўна вярнуўся з падарожжа да берагоў Гвінэі, як тады называлася частка Афрыкі. З дапамогай грошай Рабінзон вельмі лёгка пераканаў капітана ўзяць яго з сабой у наступнае падарожжа.

Рабінзон набраў з сабою цацак, пацеркаў і розных іншых прадметаў, каб прадаваць іх тубыльцам у Афрыцы, спадзяючыся атрымаць у замен за іх шмат залатога пяску і так хутка разбагацець.

Такім чынам пачаў ён сваё другое падарожжа. Але і гэтым разам ён ня быў шчасьлівым; яшчэ не даплыўшы да Афрыканскага берагу, досьвіткам, яны пабачылі карабель піратаў. Гэты карабель плыў так борзда, што яшчэ перад надыходам начы ён зьблізіўся да карабля,якім плыў Рабінзон і на якім было ня так шмат матросаў і гарматаў, як у піратаў. Піраты бяз бою ўзялі ў палон Рабінзона і ўсіх маракоў з вадаплава, не забіваючы нікога, але ўчыніўшы іх нявольнікамі.

Капітан піратаў узяў Рабінзона, як свайго асабістага нявольніка, каб ён даглядаў ягоны гарод і парадкаваў хату. Час ад часу даручаў даглядаць свой карабель, калі ён быў у порце,аднак ніколі ня браў з сабой у падарожжа.

Так ён жыў два гады, чуўся вельмі нешчасьлівым і заўсёды думаў пра ўцёкі. Нарэшце, здарылася так, што капітан, астаўшыся дома даўжэй звычайнага, пачаў па два або тры разы ў тыдзень выплываць на лодцы ў мора лавіць рыбу. З сабой ён браў Рабінзона, які быў вельмі добрым рыбаком, і хлапчука-нэгра Ксуры. Аднойчы ён загадаў Рабінзону занесьці харчы, ваду, некалькі стрэльбаў, порах і кулі на вялікую лодку, якую піраты ў свой час зьнялі з ангельскага карабля, і быць гатовым адправіцца зь ім ды некалькімі сябрамі яго на лаўбу рыбы.

Але ў апошнюю хвіліну сябры капітана не змаглі прыйсьці і Рабінзону было загадана плысьці з адным з капітана-

вых слугаў, які ня быў нявольнікам, і з Ксуры, каб налавіць рыбы на вячэру.

Рабінзон падумаў, што гадзіна ягоных уцёкаў прыйшла. Ён пагутарыў са слугою капітана, які быў ня вельмі расторопным, і намовіў яго набраць больш харчоў і вады на лодку, бо, казаў Рабінзон — "мы не павінны адмаўляцца ад таго, што дае нам гаспадар". Пасьля ён пераканаў слугу, каб той прынёс больш пораху і куляў, бо, як казаў Рабінзон, можа ўдасца застрэліць некалькі птушак на ежу.

Калі яны адплылі прыкладна на мілю ад берагу, яны апусьцілі вятругу і пачалі лавіць рыбу. Рабінзон удаваў, што ён тут ня можа нічога злавіць і казаў, што варта было-б плысьці далей. Калі яны адплылі так далёка, што ніхто зь берагу ня мог бачыць, што яны робяць, Рабінзон ізноў удаваў, што ён ловіць рыбу. Але ён сачыў за капітанавым слугою і калі той не звярочваў на яго ўвагі, зайшоў яму ад заду ды штурхнуў яго ў ваду, ведаючы, што гэты чалавек умее плаваць так добра, што лёгка даплыве да берага.

Рабінзон і Ксуры плылі ўздоўж берагу на поўдзень. Рабінзон ня ведаў, у якую краіну ён плыве, але ён стараўся знайсьціся як мага далей ад піратаў і быць, урэшце, вольным. Яны плылі шмат дзён і ночаў, падплываючы часам да самага берагу, але выходзіць на бераг не адважваліся, баючыся драпежных зьвяроў і тубыльцаў. Шмат разоў яны бачылі вялікіх львоў, якія рыкаючы выходзілі на бераг.

Аднаго із іх Рабінзон, пабачыўшы сьпячым, застрэліў, зьняў з яго скуру і зрабіў сабе ложа ў лодцы. Нарэшце, пасьля некалькіх тыдняў плаваньня, у паўдзённым кірунку, яны асягнулі вялікі мыс, называны мысам дэ Вардэ. Там яны спаткалі партугальскі карабель, які ўзяў іх на памоот.

Рабінзону было нялёгка растлумачыць, хто ён такі, бо ён ня ўмеў гаварыць па партугальску, але ўсе аказаліся вельмі ветлівымі ў абыходжаньні з ім і адкупілі ад яго лодку, стрэльбы і ўсё, што ён меў.

Яны купілі таксама беднага Ксуры, які, зразумела, быў толькі чорным нявольнікам і падлягаў прадажы зусім, як конь або сабака.

Калі яны дасягнулі да Бразыліі, дзе карабель спыніўся, Рабінзон меў дастаткова грошаў, каб купіць плянтацыю. Там ён праз чатыры гады гадаваў цукровы трысьнік і табаку. Праз гэты час ён адчуваў сябе здаволеным і шчасьлівым і зарабляў шмат грошаў.

Аднак ён ніколі ня мог чуцца здаволеным доўгі час. Калі некаторыя з ягоных суседзяў спыталіся яго, ці ня хоча ён паплысьці на караблі да ўзьбярэжжа Гвінэі, каб прывезьці стуль нявольнікаў, ён згадзіўся, зрабіўшы ўмову, што яму заплацяць за клопаты, і што некалькі з прывезеных ім нявольнікаў астануцца працаваць на яго плянтацыі.

На дванаццаты дзень ад пачатку падарожжа найшла жахлівая бура, якая пагнала карабель далёка ў бок з яго шляху. Вялізарныя, сярдзітыя, пеністыя морскія хвалі перакатываліся праз памост, змываючы ўсё рухомае, выкідаючы за борт у мора матросаў і карабельную абслугу. Ніхто з прысутных на караблі не спадзяваўся ратунку.

Пасьля гэтае буры прыйшлі іншыя, яшчэ горшыя. Вецер выў у карабельным прыладзьдзі, непагадзь зьмяшала ў паветры струмені дажджу з брызгамі морскае пены. Раніцай скрозь заслоны дажджу мільганула зямля. Але ў той самы момант карабель ударыўся аб пяшчаны нанос.

У адзін міг вецер паразрываў вятругі на кускі і ляскаў імі, выклікаючы такі шум, з-за якога ня чутно стала загадаў капітана. Хвалі пераліваліся праз пострап. Карабель урэзаўся ў мель так моцна, што машты зламаліся каля самае асновы і павыляталі ў мора.

З вялікім трудам апусьцілі на ваду адзіную на караблі лодку, у якую зьмясьціліся ўсе, што былі на параплаве.

Яны павесьлавалі да берагу, спадзяючыся знайсьці там бухту або ўток ракі, дзе мора было-б спакайнейшым.

Аднак яны не пасьпелі даплысьці да берагу. Вялізарная шэрая хваля з кудлатым ад пены хрыбтом, вялікая, як сьцяна дому, вырасла з громам за імі і, перш чым хто колечы пасьпеў крыкнуць, перавярнула лодку. Усе апынуліся ў вадзе і пачалі змагацца за жыцьцё. Рабінзон быў вельмі добрым плывуном, але ніхто-б не патрапіў плаваць па такім бурлівым моры.

І толькі шчасьлівы выпадак выкінуў яго цэлага на бераг. Вялізная хваля за хваляй кідала яго далей і далей да берага, каб нарэшце выкінуць бязсільнага і напалавіну тапельца на скалу.

Пакуль прыплыла новая хваля, якая магла-б змыць яго назад, ён змог падняцца і ратаваць жыцьцё ўцёкамі ад мора.

Так ён шчасьліва выратаваўся ад вады і лёг бясьсільна на траву. З усіх, што былі на караблі, толькі Рабінзон не ўтапіўся ў моры.

## Р А З Ь Д З Е Л   Д Р У Г І

## РАБІНЗОН БУДУЕ ДОМ

Адпачыўшы крыху, Рабінзон устаў перад надыходам начы і пачаў адзінока блудзіць. Яму было холадна, ён быў мокры і галодны ды ня ведаў, дзе спаць. Ен баяўся, каб дзярлівыя зьверы ня выйшлі ноччу з лесу і не разарвалі яго.

І вось ён знайшоў адзінае, што асталося ў ягонай кішані,-нож. З дапамогай яго Рабінзон зрэзаў вялікі кій, каб ім бараніцца ў выпадку патрэбы. Тады ён узьлез на дрэва з густымі лістамі і там усеўся паміж сукоў, так,як умеў найвыгадней і заснуў моцным сном.

Калі прачнуўся назаўтра раніцай, бура ўжо мінула, мора было спакайнейшым. Са зьдзіўленьнем пабачыў ён, што праз ноч морскія хвалі прыгналі пакінуты карабель значна бліжэй да берагу, чым учора: цяпер ён ляжаў недалёка ад скалы, на якую мора вынесла Рабінзона.

Апаўдні мора супакоілася зусім, і з адплывам морская вада адплыла так далёка, што ён змог падплысьці зусім блізка да карабля. Тады ён скінуў вопратку і праплыў рэшту адлежнасьці да карабля. Ўзьлезьці на карабель ня было лёгкім заданьнем. Ен ляжаў на пяску і дзеля гэтага тырчэў так высака над вадой,што Рабінзон ня мог знайсьці нічога, каб зачапіцца і ўзьлезьці на яго.

Нарэшце, двойчы абаплыўшы навокала карабля, ён заўважыў канат і з дапамогай яго ўзьлез на борт.

Усе прадметы ў кадаўбе карабля былі сухімі і захаваліся ў зусім добрым стане. Харчаваньне і прадукты аказаліся зусім не пашкоджанымі вадою.

Рабінзон наеўся сухароў, запіў ромам і, пачуўшыся значна дужэйшым, прыступіў да працы. Перш-на-перш ён адшукаў некалькі вялікіх дзераляных брусоў, якія меліся на караблі.

Ен паскідаў іх у мора, папрывязываўшы вяроўкаю, каб морская плынь не пазносіла іх. Тады зьлез па сьцяне карабля і пазьвязываў усе бярвёны разам, на верх упоперак панасьцілаў дошчак. Так атрымаўся плыт.

Паклаўшы шмат працы, ён спаражніў тры карабельныя матроскія скрынкі, а пасьля наладаваў іх хлебам, рысам, сырам і ўсякімі іншымі харчавымі прадуктамі, ды рознаякімі рэчамі, якія яму ўдалося знайсьці на караблі і патрэбу якіх спадзяваўся некалі адчуць. Між іншым, ён знайшоў і забраў сталярскія прылады. І нішто забранае з карабля не прыдалося яму так, як яны.

Цяпер ён пастараўся знайсьці адзежу, узамен за пакінутую ім на пяску марскога дна і змытую вадою прыплыву.

Ен узяў таксама стрэльбы, пісталеты, порах, кулі і дзьве старыя паржавелыя сякеры. Цяпер ён клапаціўся аб тым, як дабрацца да берагу на цяжкім, няўклюдным плыце, што ня меў ні стырна, ні маштаў, ні вятругаў, каторы прыходзілася гнаць абломкамі вёслаў, якія ўдалося знайсьці Рабінзону.

На шчасьце, вада растучага прыплыву паволі падганяла яго штораз бліжэй да берагу, аж нарэшце прыгнала да ўтоку маленькай рэчкі, якой Рабінзон ня бачыў, калі быў на беразе. Прыплыў быў вельмі бурлівы. Ен кінуў раптоўна плыт да выступу сухазёму, дзе той асеў на некаторы час і бязмала ня вывярнуўся, прычым усе рэчы пападалі-б у глыбокую ваду. Калі прыплыў падняўся яшчэ вышэй, Рабінзону ўдалося ўцягнуць плыт у маленькую бухту, дзе было зусім плытка, а дно было зусім роўным.

Калі пачаўся адплыў, бухта аказалася зусім сухою, і Рабінзон вынес на сухазём усе прадметы. Пасьля гэтага Рабінзон задумаў узыйсьці на ўзгорак, скуль можна было-б пабачыць, што гэта была за краіна і ці жылі тут людзі. Калі ён узыйшоў на верх узвышша, з жалем пабачыў, што ён знаходзіўся на абтоку. Навокала, як вокам кінуць, нідзе ня відаць было сухазёму за выняткам некалькіх скалаў і двох меншых астравоў, закінутых далёка ў моры.

Нідзе ня было азнакаў прысутнасьці людзей, і наагул ён ня бачыў нічога жывога, акрамя мноства птушак. Адну з іх ён застрэліў, аднак яна аказалася ня прыдатнай да ежы, - гэта быў род ястраба.

З дошчак і скрынак, забраных з карабля, ён збудаваў сабе шалаш для сну ў гэту ноч і заснуў у ім вельмі выгадна. Дзень у дзень праз увесь гэты час Рабінзон плаваў да карабля і будаваў новыя плыты, наладоўваў іх вялікімі запасамі пораху, шроту, волава для выліваньня куляў, забраў сем мушкетаў, вялікую скрыню хлеба, тры бочкі рому, вялікую колькасьць мукі, зярна, скрынку цукру, ветразі, вяроўкі, ніткі, мяшкі, гвозьдзі і шмат сталёвых сетак ад карабельных люкаў. З аднаго ветразя ён зрабіў сабе выгодны шацёр, у які паўносіў усе прадметы, якія маглі сапсавацца ад дажджа і сонца. Навокал яго награмадзіў усемагчымыя скрыні ды ўсе іншыя цяжкія прадметы, так што ніякі дзярлівы зьвер ня мог прабрацца ў сярэдзіну.

За нейкія два тыдні пагода зьмянілася: аднэй ноччу ўзьняўся вялікі вецер. Раніцай карабель разваліўся і шчэз пад вадою. Аднак гэта ня смуціла Рабінзона, бо ён пасьпеў забраць зь яго амаль усё, што магло быць ім выкарыстана. Тады Рабінзон падумаў, што прыйшоў час падшукаць выгаднейшае месца для свайго шатра.

Месца, дзе стаяў ягоны шацёр, было палажана вельмі нізка над самым морам, дзеля гэтага вада, якую піў Рабінзон, мела салоны смак.

Разгледзіўшыся ў мясцовасьці, ён знайшоў невялікую плошчу, у адлежнасьці прыкладна сто ярдаў у простай лініі на ўзбоччы ўзгор'я. Ускрай паляны была скала з невялікім углыбленьнем, нагадваючым пячору, але недастатковым натое, каб быць скарыстаным як склеп. Тут ён абаснаваў свой шацёр, прыставіўшы яго да пячоравіднай часткі скалы. Навокал шатра ён зрабіў частакол з кольляў васемнаццаці мэтровае вышыні і завостраных з верху, частакол гэты быў збудаваны так моцна, што ніхто-б ня мог пералезьці праз яго. Для большае бясьпекі ў ім ня было дзьвераў.

Рабінзон пералазіў праз яго з дапамогаю драбіны, якую хаваў сьледам за сабою. Перад заканчэньнем пабудовы частаколу, Рабінзон паўносіў у сярэдзіну ўсе свае запасы харчоў, аружжа, пораху, а затым уладзіў падвойны шацёр, каб лепш захаваць іх ад палячых праменьняў сонца і даждж у.

Тады ён пачаў рабіць лёх у скале, якая аказалася ня вельмі цьвёрдаю. І хутка пры ягоным шатры паўстаў склеп, у які ён прадбачліва надумаўся захаваць свой порах у колькасьці ста сарака фунтаў, паскладаныя ў маленькія пакункі. Рабінзон баяўся, што калі здарыцца вялікая бура з перунамі, порах можа ўзарвацца ад маланкі і разарваць яго на кавалкі.

Рабінзон уладзіўся вельмі выгадна. У свой час ён забраў з патопленага карабля двух катоў і сабаку і з імі не адчуваў сваю адзіноту так балюча. Ён меў таксама чарнілы, пёры і паперу; такім чынам у яго была магчымасьць пісаць дзёньнік. Рабінзон зрабіў вялізны дзеравяны крыж, на якім з дапамогай свайго нажа выразаў дзень прыплыцьця на гэты абток – 30 верасьня 1659 г.

Кожны дзень ён рабіў надрэз на дзераве, адзначаючы даўжэйшай рыскай нядзелю. Такім чынам ён заўсёды ведаў месяц і год, які ішоў. Для ежы Рабінзон карыстаў вялікую колькасьць козаў і голубаў, якіх паляваў бяз цяжкасьці, колькі патрабаваў.

Хутка ён пераканаўся, што ягоны шацёр і склеп былі замалыя натое, каб зьмясьціць усе рэчы, якія ён меў.

Дзеля гэтага ён пачаў пашыраць пячору, а кавалкі скалы і пясок выносіў навонкі і складаў абапал нутранога боку частаколу, стварыўшы гэткім чынам род тэрасы. І паколькі ён пераканаўся, што на востраве няма драпежных зьвяроў, якія-б маглі яму пашкодзіць, ён пастанавіў прабіць тунэль праз усю скалу аж навонкі частаколу.

Пасьля ён разьмясьціў свае рэчы на сьценах пячоры, зрабіўшы для гэтага адмысловыя паліцы, а для выхаду навонкі дзьверы. Гэта каштавала шмат працы і часу. Патое, каб нарабіць дошчак, ён мусіў ссякаць цэлыя дрэвы, абчосываць іх сякерай датуль, пакуль яны ставаліся дастаткова ценькімі, а тады абгладжываць з дапамогаю гэбля.

Сабе ён зрабіў стол і крэсла. Нарэшце ягоны замак,- як Рабінзон называў сваю сядзібу ў думках,- быў у поўным парадку. З усяго, што ён зрабіў, не прадбачыў толькі аднаго - калі павялічваў пячору,забыўся падперці скляпеньне, каб забясьпечыць яго ад абвалу. За непрадбачлівасьць ён амаль не заплаціў жыцьцём, калі аднойчы абарваўся і ўпаў вялізны кавалак мяккое скалы, зьнішчыўшы шмат ягоных рэчаў.Гэтае здарэньне каштавала некалькі тыдняў працы, - трэба было павыносіць грузы і падперці скляпеньне дастаткова моцнымі палямі.

Праз увесь гэты час ён штодзённа ўзыходзіў на гару і стуль разглядаў пустыя водныя прасторы, спадзяючыся ўбачыць ветразі карабля, які-б забраў яго дамоў.

Але дарэмнымі былі яго чаканьні - карабля ня было, і часта па ягоным абліччы сьцякала сьляза жалю ад жахлівае адзіноты. Ен лятуцеў у роспачы пра якую колечы лодку, у якой змог-бы паплысьці ў мора, прабуючы шчасьця дабрацца да населенага сухазёму. І толькі ў працы ён знаходзіў забыцьцё ў сваім вялікім няшчасьці.

## Р А З Ь Д З Е Л  Т Р Э Ц І

## ЗЕМЛЯТРУС І ГУРАГАН. РАБІНЗОН БУДУЕ ЛОДКУ.

Праз некалькі месяцаў прабываньня Рабінзона на абтоку пачаліся працяжныя і вялікія дажджы; часам цэлыя тыдні міналі без пагоднага дня. Рабінзон заўважыў, што заміж вясны, лета, восені і зімы, як у Ангельшчыне, на ягоным абтоку год дзяліўся на пагодную і дажджлівую пару. Тут ня было холаду і зімы. Здарылася так, што перад самым пачаткам дажджоў Рабінзон спаражняў мяшкі ад непатрэбных рэштак рыжу ды іншых зерняў, аб чым пасьля зусім забыўся. Ен быў вельмі зьдзіўлены, калі пазьней пабачыў, як той самы рыж і ячмень прарос каля ягонага шатра ў цяні ад скалы.

Калі зерні дасьпявалі, ён кідаў іх ізноў у зямлю.

Праз некалькі вэгэтацыйных пэрыядаў ад гэтага невялікага пачынаньня ён атрымаў вялікую колькасьць зярна на насеньне і для ежы. Аднак гэта каштавала шмат працы, бо Рабінзон ня меў ані плуга, ані бараны і зямлю даводзілася апрацоўваць з дапамогай няўклюднае лапаты, зробленае з вельмі цьвёрдага і цяжкога дрэва,якое расло на абтоку.

Спачатку Рабінзон ня мог змалоць свайго збожжа і сьпячы з яго хлеба. Калі-б яму ўдалося знайсьці вялікі камень з лёгкім углыбленьнем на версе, ён змог-бы пры дапамозе іншага выпуклага каменя размалоць зярняты і атрымаць зусім добрую муку.

Аднак усе каменьні, якія ён знаходзіў, аказаліся за мяккімі і нарэшце ён зрабіў сабе жорны з цьвёрдага дзерава, выпаліўшы ў ім углыбленьне, у якіс размолываў зярняты пры дапамозе цяжкога таўкача.

Для выпеку хлеба ён збудаваў вялікае вогнішча. На ягоны, вымецены ад попелу, спод клаў цеста і накрываў місай, зробленай з гліны, на якую насыпаў гарачы попел. Такім чынам у яго атрымоўваўся вельмі смачны хлеб.

Перад канцом дажджоў, акурат пасьля таго, як Рабінзон скончыў пабудову частаколу навокал свайго шатра,нейк раз, калі ён працаваў у пячоры, раптоўна пасыпалася зямля са скляпеньня, і тоўстыя падпоры пачалі трашчаць, наводзячы жах на Рабінзона. Адначасна з гэтым чуўся нейкі дзіўны гул, грукат і трэск, скуль - ён ня мог зразумець. Ен кінуўся бегчы, баючыся, каб скляпеньне пячоры не звалілася яму на галаву і не пахавала яго жывым. Выскачыўшы за частакол, ён пабег, куды вочы глядзелі.

Ягоны страх павялічыўся яшчэ больш пасьля таго, калі ён адчуў, што зямля хісталася пад нагамі. Цяпер ён зразумеў, што гэта землятрус.

Трыма наваротамі паўтараліся грозныя падземныя штур-

шкі; вялізная скала ў адлежнасьці паўмілі ад яго ўпала ў ваду з грукатам, нагадваючым грымоты, а мора забурліла быццам ад сьмерчу. Хістаньне зямлі паваліла Рабінзона далоў, і ён баяўся, каб зямля, якая калыхалася і трэскала, не праглынула яго; і нават тады, як спыніўся трэск і падземныя ўздрыгі, ён не адважваўся вярнуцца ў шацёр, баючыся, каб землятрус не паўтарыўся.

Раптоўна ўзьняўся люты вецер, які вырываў дрэвы з каранямі і хлёстаў вадою, так што нічога ня было відаць, апрача пены і брызгаў вады.

У паветры лятали галіны і лісты, сарваныя гураганам з дрэваў, а сотні птушак бездапаможна падалі ў мора. Праз нейкія тры гадзіны вецер таксама раптоўна сьціх, як і пачаўся, і наступіла мёртвая цішыня. Лінуў такі дождж, якога Рабінзон яшчэ ніколі ня бачыў, і які прамачыў яго да самае скуры, змушаючы вярнуцца ў пячору, дзе ён сядзеў у вялікім жаху.

Пасьля гэтага здарэньня Рабінзон доўга аставаўся ў вельмі нявыгадным палажэньні; ен клаў найбольш натугаў на тое, каб перанясьці свой шацёр і стараўся падшукаць яму больш адпаведнае месца. Землятрус зрабіў і нешта добрае для Рабінзона: мора адоланіла рэшткі патопленага карабля, і ён мог мець шмат прыгодных рэчаў, над перавозам якіх працаваў цэлымі днямі. Адзін раз, па дарозе да рэшткаў карабля, ён напаткаў вялізную чарапаху, каторую забіў. Гэта дало яму мноства добрых харчоў. Поруч з мясам, у сярэдзіне жывёлы было шмат яец, якія чарапахі складалі ў пясок на беразе мора, і якія сваім смакам прыйшліся да спадобы Рабінзона лепш, чым курыныя.

Праз некалькі дзён пасьля таго, як ён прамок на праліўным дажджы, Рабінзона пачалі пераймаць дрыжыкі; яму рабілася холадна, не зважаючы на тое, што было гарачае надвор'е; ён адчуваў боль ува ўсім целе, а начамі яму сьніліся жахлівыя сны.

Наступны дзень і шмат далейшых дзён ён ляжаў вельмі хворы ў гарачцы, з трудом даючы сабе раду. Так ляжаў ён зусім слабы і яму здавалася, што ён памірае, а нікога ня было каля яго, хто-б падаў яму вады заспакоіць смагу, або нешта памог. Ягоным адзіным лякарствам быў ром, у якім ён вымачываў табаку. Гэта быў вельмі паганы на смак лек, ад якога нудзіла, але затое ён выклікаў сон, на цэлыя суткі, пры чым хворы прасынаўся значна здаравейшым і здольным крыху прайсьціся; аднак праз два тыдні ён быў заслабы натое, каб працаваць. Гэтая хвароба навучыла яго, што нельга выходзіць без патрэбы надвор падчас [illegible] дажджоў.

Калі Рабінзон ізноў быў зусім здаровым, ён прыступіў да грунтоўнага дасьледваньня абтоку, чаго да гэтага часу ён яшчэ не зрабіў. Пры гэтым ён знайшоў шмат расьлінаў, з якіх у будучыні меў вялікую карысьць. Тут бала

табака, цукровы трысьнік і розныя гатункі пладоў,між іншым вінаград, які ён сушыў на сонцы, у вялікай колькасьці на радзынкі.

Блізка таго месца, дзе расло найбольш пладоў, ён збудаваў шалас, а для бясьпекі абгарадзіў яго падвойным плотам з кіёчкаў, сьсечаных з дрэваў, быўшых пад рукою і паўтыканых у зямлю. У наступным пэрыядзе дажджоў кіёчкі гэтыя пусьцілі карані і разрасьліся так густа, што ў хуткім часе праз жываплот ня можна было нічога ўбачыць, што рабілася каля шаласа.

Хаванка, паўстаўшая такім чынам, так спадабалася Рабінзону, што ён насьсякаў яшчэ больш такіх самых кійкоў і пасадзіў іх навокал свайго першага жыльля; у працягу году або двух гадоў яно было ўпоўні захавана ад бачаньня вока. Галіны гэтых дрэваў надаваліся вельмі добра на выраб кошыкаў, патрэбу якіх ён моцна адчуваў.

Калі Рабінзон скончыў гэтую работу, ён прайшоў праз рэштку абтока і на сваім шляху з вышыні ўзгорка ён пабачыў сухазём, што ляжаў далёка на моры, але ці быў гэта іншы абток, ці бераг Амэрыкі, ён ня мог упэўніцца.

Калі Рабінзон асягнуў праціле жны бок абтоку, ён знайшоў там на ўзьбярэжжы зьдзіўляючую безьліч чарапахаў і шкадаваў, што ён ня ўзышоў на абток з гэтага боку. Тут ня толькі чарапахі забясьпечвалі-б яго харчамі, але тут было шмат болей, чым на той часьціцы абтоку, дзе ён жыў, і птушак, і казлоў.

На зваротным шляху да свайго замку ён злавіў маладога папугая, якога пасьля даўгога часу навучыў гаварыць і клікаць яго па імені. Ен так даўно ня чуў чалавечае мовы, што слухаць, як гаварыў папугай, яму даста ўляла шмат прыемнасьці.

Зямля, бачаная Рабінзонам у вялікай адлежнасьці, ускрасіла ў ім непаўстрымнае жаданьне пакінуць абток , на якім чуўся так адзінока,і ён ізноў пачаў лятуцець пра лодку. Ен успомніў лодку, на якой у свой час са сваімі сябрамі з вадаплава прабаваў даплысьці да берага, як судно села на пескавую мялізну. Лодку гэтую мора выкінула далёка на ўзьбярэжжа абтоку. Рабінзон працаваў некалькі тыдняў, прабуючы паправіць яе, а пасьля спусьціць на ваду. Аднак ягоныя спробы ня мелі ўдачы - ён ня быў у стане зрушыць яе з месца.

Тады ён падумаў сабе: "Я зрэжу вялікае дрэва і зраблю з яго новую лодку".

Ен уяўляў сабе, што гэта зусім лёгка; калісьці ён чуў, што індыяне зрэзваюць дрэва і выпаліваюць яго ў сярэдзіне, і так атрымоўваецца човен.

"Калі так робяць яны,дык тым лепш патраплю я", -думаў ён. Разгледзеўшыся навакол, ён знайшоў волатнае дрэва, якое расло ярдаў сто ад вады і, папрацаваўшы каля трох

тыдняў, зваліў яго.

Чатыры месяцы працаваў Рабінзон пры пабудове лодкі і ўвесь час мроіў аб тым моманце, калі ён асягне няведамы сухазём, які бачыў у далячыні.

Лодка атрымоўвалася вельмі ўдалая. Дзень за днём ён прыладжываў машты, габляваў сьцены і быў вельмі гордым, калі, скончыўшы працу, пабачыў ляжачую на зямлі лодку, дастаткова вялікую натое,каб зьмясьціць дваццаць чалавек.

Тады ён спрабаваў апусьціць яе на ваду. Але гэта была зусім іншая справа. Сваімі сіламі ён ня мог яе скрануць з месца,хоць прыкладаў усе натугі. Яна была занадта вялікаю. Тады спрабаваў ён капаць канал ад мора да лодкі. Але, калі зрабіў частку працы, пераканаўся, што прыдзецца выкапаць вялікую колькасьць зямлі на працягу даўгіх гадоў, пакуль вада дойдзе да лодкі.

І ён тады зрокся свайго пляну, кінуў лодку ляжаць і гніць на дажджы і сонцы, а сам астаўся ў глыбокім няшчасьці.

## РАЗЬДЗЕЛ ЧАЦЬВЕРТЫ

### РАБІНЗОН БУДУЕ ДРУГУЮ ЛОДКУ І ПЛЫВЕ НА ЕЙ У МОРА

За чатыры гады, якія Рабінзон прабыў на абтоку, ягоная вопратка поўнасьцю зьнішчылася, так што ў яго не асталося нічога, што-б можна было назваць імем вопраткі. Вопратку ён павінен быў мець дзеля таго, што ён ня мог хадзіць разьдзетым,бо ягоная скура сьпяклася-б ад сонца; а хадзіць з голай галавой было небясьпечна, каб ня здарыўся сонечны ўдар.

Дзеля гэтага ён зьбіраў скуры козаў ды іншых зьвяроў, як лісы і зайцы, якіх яму ўдавалася застрэліць. Пасьля шматлікіх няўдачаў ён зрабіў з казінае скуры капялюш, куртку і пару кароткіх порткаў.

Скуркі ён выварачываў поўсьцю навонкі, каб забясьпечыцца ад вільгаці ў пэрыядзе дажджоў. Капялюш быў вельмі высокі; з заду ён зьвісаў яму на шыю.

Пасьля шматлікіх клопатаў Рабінзон патрапіў зрабіць са скураў парасон, які ён мог адчыняць і закрываць. Ды хоць ягоная вопратка і парасон, а перадусім ягоны дзівосны капялюш, выглядалі ня вельмі прыгожа, яны былі вельмі выгоднымі, і ён мог выходзіць ува ўсякае надвор'е.

Праз наступных пяць гадоў ня здарылася нічога асаблівага, і Рабінзон увесь час пасьвячаў здабываньню харчоў, пасеву і жніву ды сушэньню радзынак.

Пад канец пятага году ён зрабіў яшчэ адну спробу збудаваць лодку. На гэты раз шмат меншую,чым перш,і хоць яму прышлося затраціць на будову каля двух гадоў, нарэшце спусьціў лодку на мора.

Лодка была замалою па тое, каб прабаваць плысьці да аддаленага сухазёму, які аднойчы бачыў, і ён скарыстоўваў яе для плаваньня каля ўзьбярэжжа ўласнага абтоку і лоўлі рыбы. На лодцы ён устанавіў невялікі машт,да якога прымацаваў маленькі ветразь, зроблены з кавалка старога карабельнага ветразя, а заміж стырна скарыстаў старое вясло. Як ён сам лічыў, лодка плавала вельмі добра.

Над стырном ён умацаваў свой вялікі парасон, нагадваючы намёт, для аховы ад сонечных праменьняў.

Рабінзон гарэў жаданьнем аплысьці навокал усяго абтоку. І вось ён заладоўвае вялікую колькасьць харчоў, бярэ сваю стрэльбу і пачынае падарожжа. Усё ішло вельмі добра, пакуль ён асягнуў усходні канец абтоку, дзе спаткаў шмат скалаў, а за імі пескавую мялізну, сягаючую на восем да дзевяці міляў у мора.

Рабінзон не спрабаваў рызыкаваць плысьці на маленькай лодцы да скалаў і паплыў да берагу, каб узышоўшы на ўзгорак разглядзець скалы і мялізну.

З узгорку ён пабачыў, што морская вада разьбівалася аб пескавую мялізну, ствараючы магутны вадзяны вір, і Рабінзон думаў, што там павінна быць сустрэчная плынь, якая-б бясьпечна занесла ягоную лодку навокал мялізны,ня кінуўшы яе на падводныя скалы.

Міжтым у гэты і наступныя дні дзьмуў працілежны да плыні водаў вецер, які хвалявау мора зашмат, каб плысьці на малой лодцы. Дзеля гэтага Рабінзон пастанавіў астацца на некаторы час на беразе. На трэці дзень настала цішыня, і ён паплыў. Чым больш зьбліжаўся ён да мялізны, тым глыбейшай станавілася вада, а бязьлікія віры гналі лодку штораз далей ад берагу, не зважаючы на тое, што Рабінзон рабіў роспачныя натугі з дапамогаю стырна. Ветру ня было і таму ветразі былі бескарысньмі.

Рабінзон лічыў сябе згубленым, бо чым больш ён працаваў, тым больш лодку зносіла далей і далей. Абток хутка застаўся так далёка, што Рабінзон з цяжкасьцю яго бачыў. Ен адчуваў сябе зусім абязсіленым, змагаючыся вёсламі супроць плыні вады.

Ен паддаўся адчаю, перастаў веславаць, пакінуўшы лодку плысьці туды, куды яе несла вада. І якраз тады подых ветру крануў ягоную шчаку. Рабінзон, сьпяшаючыся,узьняў ветразь.

Хутка пачаў дзьмуць спрыяльны вецер, які прыгнаў лодку Рабінзона за небясьпечныя скалы. Рабінзон адчуваў сябе так, як павінен чуцца чалавек, што апынуўся на волі пасьля таго, як яго прысудзілі на сьмерць; ён амаль-што ня плакаў ад радасьці. Міля за міляй упэўнена зьбліжаўся ён да зямлі, а позна ўвечар, нарэшце, асягнуў бераг, але з другога боку таго месца, якое ён прабаваў абплысьці раніцай. Рабінзон вышукаў маленькую буктачку, загнаў у яе лодку і,ўмацаваўшы яе так, каб адплыў ня мог зьнесьці яе ў мора, лёг пад дрэвам і заснуў здаровым сном.

Наранье ён узноў паплыў уздоўж берагу і асягнуў букту, у якую ўпадала невялікая рэчка, творачы вельмі дагодную прыстань для ягонае лодкі. Тут ён пакінуў яе і пайшоў далей пехатою. Хутка ён пабачыў, што знаходзіўся недалёка ад месца, якое ўжо раз наведаў, і каля паўдня дасягнуў да шалаша, які ён называў сваёю вясковай хатайлецішчам. Па драбіне Рабінзон пералез праз плот, уцягнуў драбіну за сабой ды лёг у цяні адпачыць пасьля мінулых дзён. Хутка ён заснуў. Аднак, які было яго зьдзіўленьне, калі яго разбудзіў голас, клікаўшы: "Рабінзо, Рабінзон.. Крузо! Дзе ты? "

Сьпярша ён думаў, што сьніць, але голас паўтарыўся: "Дзе ты, Рабінзон?"

Ен ускочыў, трасучыся ад сполаху і зьдзіўленьня; ён ужо даўно ня чуў чалавечага голасу, апрача свайго. Аднак, калі ўстаў і разгледзеўся, ён убачыў на дрэве свайго папугая, які, відаць, прыляцеў сюды з шатра, дзе яго Рабін-

зон пакінуў. Папугай балбатаў з вялікім умецтвам, усхваляваны тым, што пабачыў свайго пана ізноў. Рабінзон ня ведаў, сумаваць, ці цешыцца з таго, што гэта быў толькі голас птушкі.

Цэлы год пасьля гэтага Рабінзон аставаўся на частцы абтоку, куды яго выкінула мора, апрацоўваючы зямлю і робячы судзьдзё з гліны.

Ён нават навучыўся выпаліваць яго. Між іншым ён рабіў сабе люлькі да курэньня, якія прычынялі яму шмат прыемнасьці. Табаку прыгатоўваў сабе з дзікіх расьцінаў, якіх тут было вельмі шмат. Баючыся, каб не зрасходаваць зашмат пораху на паляваньне, ён пачаў лавіць козаў замест страляць іх. Пасьля шматлікіх спробаў, ён пераканаўся, што найлепшым спосабам было капаць ямы, якія пасьля накрываў гальлём і лістамі, а зьверху прысыпаў зямлёю. Калі што-небудзь цяжкое ступала туды, яно абавязкава правальвалася ў яму. Такім чынам ён лавіў шмат козаў. Казьлянят ён асвоіў, і за кароткі час у яго стала зусім вялікае стада козаў. Рабінзон гадаваў іх на невялікіх абгароджаных лужкох.

## Р А З Ь Д З Е Л   П Я Т Ы

## РАБІНЗОН БАЧЫЦЬ ЧАЛАВЕЧЫ СЬЛЕД НА ПЯСКУ
## І ЗНАХОДЗІЦЬ РЭШТКІ ПАПАСУ ЛЮДАЕДАЎ

Праз увесь гэты час Рабінзон ні разу не хадзіў да лодкі, аднак пасьля ў яго зьявілася жаданьне паглядзець, дзе ён пакінуў яе, хаця плысьці на ёй у мора баяўся. Калі ён узышоў на ўзгорак, скуль назіраў морскую плынь, у той дзень, калі яго лодку панесла ў мора, на гэты раз, ніякога цячэньня ён не пабачыў і зрабіў стуль выснаў,што гэта залежыць ад узросту і паслабленьня прыплыву.

Хаця ён і палохаўся плысьці далёка ў мора, аднак астаўся некаторы час у сваім лецішчы, прадпрыймаючы невялікія экскурсіі на лодцы.

Аднойчы, калі Рабінзон ішоў па надбярэжнаму пяску да свае лодкі, ён раптоўна затрымаўся каля вады і застыў у нярухомасьці ад зьдзіўленьня і сполаху, выкліканых тым, што ён пабачыў адбітак босае нагі на пяску. Гэта ня быў ягоны сьлед,бо меў зусім іншую форму. Чый-жа быў ён? Ен прыслухоўваўся і азіраўся навокал, але нічога ня бачыў і ня чуў. Рабінзон узьбег на ўзгорак і азіраўся ўвакол, але й стуль не пабачыў нічога.

І хоць ён шукаў па цэлым беразе,іншых сьлядоў - не знайшоў.

Хто-ж пакінуў той сьлед? Можа чалавек, - так думаў Рабінзон, - які сочыць яго сукрыта з-за дрэў,каб прыйсьці і забіць яго сьпячым.

Ен сьпяшаўся да свайго селішча і ўсю дарогу быў у палоне жаху, уздрыгваючыся кожны момант і азіраючыся ўвакол. Яму здавалася, што яго прасьледуюць,кусты і дрэвы яму здаваліся чалавекам, які сачыў, каб кінуцца на яго. Гэтай ноччу ён ня спаў зусім, а ягоныя нэрвы былі настолькі напружанымі, што кожны крык начное птушкі,кожны шэлест,выкліканы кузуркай або жабай,змушалі яго здрынуцца ад страху.

Ен зьліваўся потам і хаваў галаву. Так міналі дні. Нічога надзвычайнага ня здарылася. Неспакой Рабінзона зьменшаўся, і ён узяўся ізноў за сваю штодзённую працу. Тым ня менш ён умацаваў плот навокал свайго замку і выразаў у ім сем маленькіх дзірак,у якіх умацаваў мушкеты, гатовыя да стрэлу ў выпадку нападу. У невялікай адлежнасьці ад плоту ён пасадзіў густы пояс маленькіх кіёчкаў, якія за некалькі гадоў стварылі гушчар кустоў і дрэваў, які закрыў усе сьцежкі да ягонага селішча.

Прамінулі спакойна гады, і нічога ня здарылася больш, што магло-б непакоіць Рабінзона, або навесьці ягоную думку на чалавечы сьлед, які так яго напалохаў.

Рабінзон старанна дасьледаваў нутро абтоку, не праміналючы ніякае нагоды вышукаць хаванкі на выпадак партэбы. З сабой ён заўсёды насіў сякеру, стрэльбу і пару пісталетаў.

Адзін раз здарылася, што ён зайшоў далей звычайнага на захад. Пазіраючы ў мора, яму здалося, што ён бачыць у вялікай адлежнасьці нешта падобнае да лодкі або даўгога чаўна, але гэта было настолькі далёка, што ён ня мог разгледзець дакладна бачанага. Гэты выпадак навёў яго на думку кожны раз, калі ідзе ў напрамку свайго назіральнага пункту, забіраць з сабою падзорную трубу, выратаваную з патопленага карабля.

Зьява бачанае ім лодкі вярнула ягоную трывогу. Ён накіраваўся да ўзьбярэжжа, і тое, што ён пабачыў там, напоўніла яго жахам. Па ўзьбярэжжы былі раскіданы чалавечыя чарапы, косьці і кавалкі спаленага мяса, а ў адным месцы быў сьлед вялікага вогнішча. Рабінзон стаяў аслупянелы ад жаху і сьмяротна бледны. Ён лёгка зразумеў, што абазначае жахлівае зьявішча. Тут былі людаеды, якія забілі і елі сваіх нявольнікаў. Тубыльцы некаторых частак сьвету, узяўшы непрыяцеляў у палон падчас вайны, маюць звычай распаліваць вогнішча, забіваюць палонных і спраўляюць урачыстасьць над смажаным целам, наядаючыся - колькі хто можа. Часам здараецца, што нявольнік, прызначаны на ежу, бывае захуды; тады яго кормяць, і калі ён робіцца дастаткова тлустым, забіваюць.

Рабінзон ведаў пра гэта, хоць ніколі яшчэ не спатыкаўся з людаедамі. Азіраючыся ўвакол, ён бачыў мноства раскіданых касьцей. Некаторыя з іх былі вельмі старыя.

Гэта сьветчыла аб тым, што на працягу гадоў ягонага прабываньня на абтоку, людаеды рэгулярна прыязджалі сюды спраўляць свае сьвяты. Цяпер ён ацаніў, якім вялікім дабрадзействам Божым было тое, што мора выкінула яго на процілежным беразе абтоку, куды, ён так думаў, людаеды нікол ня прыходзяць, таму што бераг быў няпрыгодным да высадкі.

Поўны жаху, Рабінзон сьпяшаўся ў сваю сялібу і на працягу двух гадоў ні разу не падыходзіў нават блізка да месца, дзе спачывалі косьці і ні разу не адведываў свайго чаўна. Увесь гэты час ён думаў аб тым, як-бы забіць людаедаў падчас наступнага іх сьвята і выратаваць бедных людзей, прызначаных імі на сьмерць. Пэўны час ён думаў закапаць порах у месцы, дзе людаеды праўдападобна распаліваюць вогнішча. Узарваўшыся ад агню, порах меў-бы пазабіваць іх.

Аднак, разважыўшы гэты плян, ён здаўся яму ня вельмі добрым: яму шкада было траціць свой порах, тым больш, што людаеды маглі распаліць вогнішча ў іншым месцы, або падчас выбуху пораху маглі знаходзіцца далёка ад агню. Рабінзон разглядзеўся па ваколіцы і знайшоў месца, у якім

мог вельмі добра схавацца і бачыць мясцовасьць, дзе былі раскіданы косьці. Блізка таго месца расьлі дрэвы, пад асловай якіх ён мог нябачна падпаўзьці да людаедаў і страляць бяз промаху ў іх. Ягоны плян палягаў на тым, што калі яму ўдасца пабачыць дзікуноў, калі яны прыплывуць сюды на свой жахлівы банкет, ён будзе ляжаць схаваўшыся да тае пары, пакуль надарыцца адпаведная хвіліна, а тады пачне страляць у іх са стрэльбы і пісталетаў, а ўрэшце накінецца на астаўшыхся з цесаком. Ен разьлічаў, што такім спосабам яму ўдасца забіць усіх дзікуноў, нават у тым выпадку, калі іх акажацца больш за дваццаць дзеля таго, што яны ў разгубленасьці не пасьпеюць схапіцца за свае дзіды і дубцы.

Склаўшы сабе гэткі плян, Рабінзон чуўся вельмі задаволеным і некаторы час амаль ні аб чым іншым ня думаў, а кожны дзень хадзіў на свой назіральны пункт, за тры мілі, і шукаў праз падзорную трубу чаўна, плыўшага ў напрамку ягонага абтоку. Але пасьля двох або трох месяцаў чаканьня бяз выніку яму гэта надаела. Ніводнае кропачкі ня было відаць на моры, і ён пачаў што раз радзей адведываць свой назіральны пункт, а ўрэшце пакінуў зусім.

І наагул падумаў ён, ці гэта яго справа; дзікуны ніколі лепш не рабілі, а паступалі так, як іх навучалі бацькі. Гэтакі быў звычай у гэтай дзікай краіне, і Рабінзон стаў задумывацца, ці мае ён наагул права мяшацца ў іх справы, пакуль яго не кранаюць.

Ен разважаў яшчэ і так, што калі яму ня ўдасца пазабіваць усіх, і хоць адзін з дзікуноў уцячэ, напэўна, вярнуўшыся дамоў, ён раскажа людзям свайго племені і тыя, прыплыўшы сотнямі, заб'юць Рабінзона, памсьціўшы сьмерць сваіх сяброў. Пасьля гэтага яны, бязсумліўна, зьядуць яго, а ўяўленьне гэтага было вельмі жахлівым.

Наагул яму здалося зусім разумным пакінуць гэтую частку ўзьбярэжжа і схавацца недзе на абтоку, куды-б толькі ён мог ведаць сьцежкі, як адзіны жывучы на абтоку. І вось на працягу цэлага году ён не зьяўляўся больш на гэтым месцы, за выняткам таго, калі ён прыходзіў, каб схаваць сваю лодку. Яе з мачтай, ветразем і маленькай котвачкай, якую зрабіў для яе, Рабінзон загнаў у найбольш на ўсход высунуты канец абтоку. Ен быў пэўным, што дзікуны ніколі ня прыплывуць сюды на сваіх чаўнох, таму што плынь звычайна бурліла ўздоўж скалаў; тут пакінуў яе спачываць бясьпечна на катвіцы пад аховаю высокіх скалаў.

Больш як калі, Рабінзон прабываў у сваіх абодвух хатах і рэдка пакідаў іх, за выняткам таго, каб пайсьці ў глыбокую лагчыну, якую ён адкрыў і праз якую плыў ручай крыштальна чыстае вады і дзе ён трымаў большую частку сваіх козаў, абясьпечыўшы лагчыну плотам. Ен зусім перастаў страляць са свае стрэльбы, каб ня прыбеглі дзікуны, шукаючы прычыну гуку; з тае самае прычыны ён палохаўся рубаць дрэвы, або забіваць гвазды. Асабліва высь-

церагаўся распаліваць агонь удзень, бо нішто ня бывае так відочным здалёк, як дым, які напэўна прывёў-бы да яго дзікуноў,калі-б яны былі на абтоку або недзе блізка.

Дзеля таго, калі ён патрабаваў вялікага вогнішча, прыкладам, да выпальваньня гліняных талерак і гаршчкоў, якія ён рабіў, Рабінзон распаліваў вогнішча звычайна ноччу. Аднак часам ён распаліваў вогнішча ўдзень,але рабіў гэта ў лагчыне, скуль дым ня было відно так проста на небе або на фоне дрэваў, дзеля таго што лагчына была глыбокай і ляжала ў самай сярэдзіне абтоку.

Нарэшце, ён пачаў прыгатоўваць дзеравяны вугаль, спальваючы дрэва пад зямлёю, або дзярном; часта на гэтым вугальлі ён варыў страву ў хаце, бо такі вугаль не дае дыму.

## РАЗЬДЗЕЛ ШОСТЫ

### РАБІНЗОН ЗНАХОДЗІЦЬ ПЯЧОРУ, ЕН ЧУЕ СТРЭЛЫ З КАРАБЛЯ, ПАЦЯРПЕЎШАГА НЯШЧАСЬЦЕ

Адзін раз Рабінзон быў на дне лагчыны і рубаў тоўстыя галіны, каб спаліць іх на вугаль. Расчышчаючы кусты, ў падножжа вялікае скалы, ён пабачыў адтуліну. Прасунуўшыся праз гэтую адтуліну з даволі вялікім трудом, Рабінзон апынуўся ў пячоры дастаткова вялікай і высокай натое, каб магчы стаяць.

Было зусім цёмна, асабліва ўвайшоўшы з сонечнага сьвятла. Рабінзон адвярнуўся плячыма да ўваходу і хацеў ісьці ў глыб пячоры, як раптам у глыбіні яе ўбачыў пару вялікіх бліскучых вачэй, пазіраючых на яго. У Рабінзона падняліся валасы ад жаху, бо яму здалося, што ён пабачыў самога чорта; з крыкам ад сполаху ён выскачыў навонкі.

Апынуўшыся ў яркім сонечным сьвятле, ён пачаў сароміцца свайго сполаху; ён тлумачыў сабе, што бачанае зьяўляецца проста творам ягонага ўяўленьня.

Узяўшы пылаючы сук з вогнішча, ён ізноў увайшоў у пячору.

Не пасьпеўшы зрабіць трох крокаў у пячоры, Рабінзон спыніўся ў яшчэ большым чым перш страху. Тут-жа каля сябе ён пачуў жахлівы стогн, падобна да стогну болі, а гучэў ён, як бурчэньне, якога немагчыма выказаць словамі. Ізноў глыбокі стогн. Халодны пот абліў Рабінзона, і ён адступіўся з дрыжэньнем, аднак на гэты раз стрымаўся ад уцёкаў.

Узьняўшы палаючы сук над галавою, ён разгледзеўся ўвакол і пабачыў вялізнага старога казла, што ляжаў на падлозе пячоры ды з трудом дыхаў, адкрыўшы зяпу, і здыхаў, відаць, ад старасьці. Рабінзон крануў яго нагою, каб пабачыць, ці ён зможа выйсьці з пячоры, аднак бедная жывёліна не магла ўстаць, і ён пакінуў казла здыхаць там, дзе ён ляжаў. Пасьля таго як прамінуў страх, Рабінзон пачаў разглядацца ўвакол. Пячора была маленькай, ня больш дванаццаці футаў ушыркі, але ў глыбіні яе была адтуліна. Яна была настолькі нізкаю, што ўвайсьці ў яе можна было толькі поўзаючы на руках і каленах. Ня маючы лепшага сьвятла за гаручы сук, ён ня мог бачыць, як далёка адтуліна сягае. Дзеля гэтага ён пастанавіў вярнуцца назад. Яшчэ доўга перад гэтым ён зрабіў запас вельмі добрых сьвечак з тлушчу забітых козаў.

На наступны дзень ён вярнуўся ў пячору, узяўшы шэсьць такіх сьвечак і крэсіва, каб запаліць іх. У той час яшчэ ня было запалак, і людзі здабывалі агонь з дапамогаю крэмня, красіва і псрту, які вельмі лёгка запальваўся ад іскры. Увайшоўшы ў пячору, Рабінзон запаліў сьвечку і пабачыў, што казёл быў ужо мёртвым. Адкінуўшы

яго ўбок, каб пасьля закапаць, Рабінзон упоўз на руках і каленах у адтуліну і так поўз ярдаў каля дзесяці, аж нарэшце апынуўся ў прасторнай пячоры з высокім да дванцаці футаў скляпеньнем. З усіх бакоў на сьценах зіхцеў водблеск сьвячы, пералiваючыся, як золата або дыямант. Спод пячоры быў цалком сухі і роўны; на сьценах таксама ня было сьлядоў вогкасьці.

Рабінзон надта цешыўся сваім адкрыцьцём. Адзіным недахопам пячоры быў цесны ўваход у яе, але ён вырашыў скарыстаць яе галоўным чынам, як схованку ў выпадку нападу на яго. Пячора ў самой справе мела вялікую абаронную вартасьць, бо адзін чалавек, узброены стрэльбаю, мог лёгка бараніцца супроць сотняў нападаючых.

Рабінзон вырашыў схаваць тут увесь свой порах, за выняткам трох ці чатырох фунтаў, патрэбных для амуніцыі ў стрэльбы і мушкеты. Носячы порах, ён успомніў, што можа адкрыць бочку, прынесеную на бераг з руінаў карабля пасьля землятрусу. Не зважаючы на тое, што вада пранікнула ў сярэдзіну, яна прычыніла толькі частковую шкоду, бо порах заскарупеў звонку, а ў сярэдзіне астаўся зусім сухім і добрым.

Паводле павярхоўнае ацэнкі тут было прыблізна шэсьцьдзесят фунтаў пораху, што давала яму вялізны запас, дастатковы на рэшту ягонага жыцьця.

Больш дванцаці двух гадоў пражыў Рабінзон да гэтага часу на абтоку. Ен зросься і звыкся з ім і са сваім спосабам жыцьця. Калі-б ён меў упэўненасьць у тым, што да яго не прыплывуць дзікуны, ён з поўным спакоем пагадзіўся-б пражыць тут рэшту сваіх дзён і памерці, нарэшце, са старасьці, як казёл, якога ён знайшоў адзін раз у пячоры. Быў канец сьнежня, час жніва на абтоку. Рабінзон праводзіў увесь час на сваім полі, выходзячы туды яшчэ перад узыходам сонца. Клапоцячыся аб тым, каб скончыць жніва, ён адзін раз раніцай пакінуў сваю хату раней звычайнага, яшчэ перад тым, як пагасьлі зоркі і чырвань зары ахварбавала край неба. Калі ён мінаў узвышша, паміж ягоным замкам і жытнім палеткам блiснула нешта на моры.

У вялікім жаху ён пабачыў на беразе вогнішча, распаленае, як ён быў упэўнены, рукамі людаедаў, якія прышлі ізноў на абток.

Рабінзон кінуўся бегчы ў свой замак, пералез праз плот і ўцягнуў за сабою драбіну.Пасьпешна заладаваў мушкеты і пісталеты і быў гатовым бараніцца да астатку. Рабінзон быў упэўнены, што калі дзікуны пабачаць збожжа, што расло на ягоным полі, яны даведаюцца аб тым,што нехта жыве на абтоку і не спачынуць да тае пары, пакуль ня знойдуць яго.

Пачакаўшы некаторы час, за які нічога асаблівага ня здарылася, Рабінзон ня мог даўжэй пераносіць няўпэўненасьці.

Узяўшы падзорную трубу, ён зачапіў драбіну за скалу ў тым месцы, дзе быў выступ, узьлез па ёй, потым уцягнуў драбіну, умацаваў яе ізноў і так залез на верхавіну скалы, а там лёг і пачаў пільна ўглядацца праз шкло.

Ен убачыў ня менш дзевяці дзікуноў, якія сядзелі навокал вогнішча і нешта варылі. Што пайменна яны варылі, ён ня мог сказаць, хоць здагадацца пра гэта ня было трудна.

Крыху счакаўшы, яны пачалі род танца навокал вогнішча, разьдзеўшыся да голага. Каля дзьвюх гадзін Рабінзон назіраў за імі. Людаеды мелі два чаўны, якія ляжалі на беразе. Вада ў моры апала. Дзікуны, відаць, чакалі прыплыву, каб плысьці назад. Калі-ж пачаўся прыплыў, яны сабраліся, сьпіхнулі лодкі на ваду, ускочылі ў іх і пачалі веславаць.

Як толькі Рабінзон упэўніўся ў тым, што яны сапраўды адплылі, ён сьпешна пайшоў на ўзгорак, скуль першы раз некалі даўно ён пабачыў лодкі дзікуноў. Паглядзеўшы ў падзорную трубу,ён убачыў яшчэ тры лодкі на моры, якія таксама плылі ў процілежным да абтоку кірунку.

Зыйшоўшы на бераг, ён пабачыў жахлівы абраз. Чарапы, кавалкі мяса і косьці ляжалі ўвакол, а сям там пясок быў прасякнуты крывёю. Жах бачанага ўзбудзіў у Рабінзона яшчэ раз думку пры першай нагодзе напасьці на людаедаў, не зважаючы на тое, колькі-б іх ня было і колькі змог-бы іх забіць. Доўга пасьля гэтага ён жыў у вялікім непакоі, ніколі ня маючы ўпэўненасьці ў тым, што ў якім - небудзь моманце на яго не нападуць нечакана. Ен часта жадаў,каб наступіў момант, калі-б ён змог кінуцца ў змаганьне;няўпэўненасьць чаканьня заўсёды пераносіцца цяжэй, чым дзеяньне, нават поўнае небясьпекі.

Так прамінула шмат месяцаў, а дзікуны не зьявіліся, і нішто не турбавала Рабінзона, за выняткам кашмарных сноў, ад якіх ён часта прабуджаўся начамі,крычаў праз сон і змагаўся, бо яму здавалася, што дзікуны забіваюць яго.

Неяк у палавіне наступнага мая здарылася вялікая бура з грымотамі, маланкамі і навальнічным дажджом.Ноччу дзьмуў вецер з сілаю урагану. Рабінзон ня мог заснуць і сядзеў, слухаючы выцьцё ветру, а час ад часу чытаў Біблію, якую знайшоў у ваднэй з матроскіх скрынак.

Раптам ён здрыгануўся, пачуўшы глухі грукат, які ўскалыхнуў паветрам. Гэты гук быў падобны да таго, калі нешта вельмі цяжкое, але мяккое, падае на падлогу ў пакоі верхняга паверху. За некалькі хвілінаў раздаўся другі такі самы гук. На гэты раз ён пачуў больш выразна і пазнаў, што гэта былі гарматнія стрэлы на моры і яны,відаць, паходзілі з карабля, які апынуўся ў небясьпецы і просіць дапамогі іншага судна.

Рабінзон ускочыў і з дапамогаю сваёй драбіны ўзьлез на верхавіну скалы, скуль пабачыў блеск новага стрэлу ў напрамку скалістага рыфа на канцы абтоку. Калі ён нічым ня мог дапамагчы людзям на караблі, дык яны змогуць яму дапамагчы, калі самі выратуюцца! Рабінзон пачаў зьбіраць сухое дрэва, якое яму папала пад рукі, і назьбіраўшы яго вялікую гурбу, падклаў пад яго агонь, каб даць знаць караблю, што на абтоку нехта ёсьць. Ён быў упэўнены, што на караблі пабачылі ягоны знак, бо як толькі бліснуў агонь, раздаўся новы стрэл. Адзін за другім грымелі стрэлы на працягу пэўнага часу.

Рабінзон утрымоўваў агонь цэлую ноч, а калі настала сьвітаньне і прыціхла бура, яму здалося, што бачыць праз падзорную трубу нешта падобнае да карабля ўва ўсходнім напрамку. Выглядала так, што ён стаў на котве таму, што ня рухаўся. Але адлежнасьць была занадта вялікаю, а дрэннае надвор'е зьмяншала поле бачаньня. Таму Рабінзон ня мог быць пэўным, ці тое, што ён бачыў, было наагул караблём.

Удзень, калі надвор'е палепшала, Рабінзон пайшоў на гару, з якое некалі даўно сачыў за морскаю плыньню, бурлівшаю ўздоўж скалаў. Адтуль ён выразна пабачыў карабель, але, на вялікі жаль, ён разьбіўся аб скалу ў тым месцы, дзе Рабінзон калісьці занесены ў мора пабачыў разьдзел морскае плыні.

Бяссумніўна, матросы загінулі. Смутак агарнуў Рабінзона ад думкі аб тым, як блізка былі белыя людзі, магчыма, нават землякі, і што ніводзін з іх ня вышаў на бераг. З глыбіні душы яму хацелася пабачыць белага чалавека і пагутарыць з ім.

За выняткам таго, што пасьля Рабінзон угледзеў на рэштках разьбітага карабля, ён цяпер бачыў толькі цела юнака, выкінутага морам на бераг абтоку. На падставе вопраткі на нябожчыку Рабінзон ня мог сьцьвердзіць, да якое нацыі належаў юнак. У кішані нябожчыка былі дзьве залатыя манэты і люлька да курэньня. Гэта было ўсё, чым мог пацешыць сябе Рабінзо.

## РАЗЬДЗЕЛ СЕМЫ

### РАБІНЗОН НАВЕДВАЕ ВРЭК ГІШПАНСКАГА КАРАБЛЯ.
### ВЫРАТАВАНЬНЕ НЯВОЛЬНІКА ЛЮДАЕДАЎ.

Калі пагода зрабілася ціхою і ўстойліваю, Рабінзона ўзяла ахвота падплысьці да врэка карабля, што асеў на мялізьне;аднак зарызыкаваць такую язду на маленькай лодцы можна было толькі пры адпаведнай пагодзе.

На гэты раз ён узяў з сабою компас і вялікі запас харчоў і вады, столькі, колькі магла панесьці лодка, ды вырушыў, веслуючы ўздоўж берагу, да пескавое касы, дзе вада, разьбіваючыся аб скалы, стварала бурлівую плынь. Тут яго пакінула адвага. Як вернецца ён назад да берагу, калі яго падхопіць бурлівая цеча? А калі на моры ўсходзіцца бура, як зможа ўтрымацца ягоная лодка на хвалях? Гэтыя пытаньні яго так стрывожылі,што ён вярнуўся да берагу. Узыйшоўшы на высокую скалу, ён некалькі гадзін сачыў за вадою, разважаючы: варта плысьці да карабля, ці не. І вось ён заўважыў, што вада плыла ў процілежным напрамку, чым перш.

Прычыну гэтага ён пабачыў у дзеяньні прыплыву. Рабінзон зразумеў, што калі ён выбярэ адпаведны час, хвалі занясуць яго да самага карабля, а наступны прыплыў дапаможа яму вярнуцца на бераг.

Гэта здавалася такім лёгкім і простым, што ён вырашыў зарызыкаваць пробу на наступны дзень. Праспаўшы ноч у лодцы, на другі дзень раніцаю ён паплыў і праз дзьве гадзіны з нечым бесклапотна дасягнуў карабель.

Судно ўяўляла жаласны від, - гэта быў гішпанскі карабель. Пазнаў гэта Рабінзон па будове. Яго моцна сьціскалі дзьве скалы,а ўся задняя частка ягонага кодаўба была ў вадзе. Падчас штуршка зламаліся машты і павіснулі са спутанымі канатамі карабельнае снасьці. Пострап,абгародка на ім, драбінкі, - усё гэта было панішчана. Толькі частка аднае ратаўнічае лодкі вісела яшчэ на канаце. Яе разламала віхура перад тым, як мараплавы здолелі спусьціць яе на мора. На судне ня было нікога жывога, за выняткам сабакі, каторы пабачыўшы Рабінзона нінуўся з брэхам у мора і паплыў да яго. Бедная жывёліна! Яна амаль здыхала ад смагі. Рабінзон даў сабацы вады і ежы, а ён піў з такою смагаю, што прышлося ваду забраць ад яго, каб ён не апрогся.

Першым, што кінулася Рабінзону ў вочы на караблі, былі целы двох матросаў, ляжачыя ў кухні. Мерцьвякі ляжалі, трымаючыся ў абдымках. Апрача іх ня было ніякага сьледу іншых людзей.

Увесь карабельны груз быў выкінуты ў мора. Рабінзон знайшоў некалькі бочак гарэлкі, ці віна,але яны былі за-

надта цяжкімі, каб ён мог зрушыць іх з месца. Некалькі скрынак ляжала на пярэдняй частцы карабля, яны праўдападобна належалі некаму з карабельнае абслугі. Дзьве з іх Рабінзон узяў на лодку разам з невялікай бочкай лікёру ды іншымі рэчамі: ражок на порах, поўны пораху, шуфэлек на гарачае вугальле, абцугі /якія ён заўсёды вельмі патрабаваў/, два невялікія бронзавыя кацельчыкі, брытван, для смажаньня мяса. Гэтыя рэчы і сабака - вось усё, што ён узяў з карабля. Сабака быў вялікай пацехай для яго, бо той, якога ён некалі прывёз на бераг са свайго карабля, здох шмат гадоў таму назад.

Паміж рэчамі, прывезенымі на бераг, ня было нічога вартага ўвагі, за выняткам знойдзенага ў матроскіх скрынках. У гэтых скрынках было шмат рэчаў, якія ён высока цаніў: палатняныя сарочкі, хустачкі да носа, рознакалёрныя краваты, банкі цукерак, скрынка бутэлечак з лекамі, цудоўныя вырабы з серабра і - што найменш цікавіла яго - тры вялікія мяшкі залатых рэчаў, побач залатых дублонаў /манэтаў/ і зьліткаў золата. Усё гэтае золата ён аддаў - бы за пару ангельскіх чаравікаў і скарпэтак, бо яно было бескарысным для яго на абтоку. Грошы і золата ён злажыў у пячору разам з іншымі рэчамі і вярнуўся да лодкі, каб адставіць яе ў букту да наступнага разу.

Від разьбітага аб скалы карабля і патопленых людзей напоўніў яго новым жаданьнем пакінуць абток. Калі-б ён меў такую лодку, як тая, на якой калісьці ўцёк ад піратаў, разважаў Рабінзон, ён-бы не чакаў больш на абтоку, а паплыў-бы ў мора на ёй і спрабаваў-бы шчасьця дасягнуць сухазём, на якім жылі белыя людзі. Але маючы такую слабенькую лодку, як ён, зьдзейсьніць гэты плян ня было магчымасьці, і яму ня было іншага выбару, як жыць так, як жыў дагэтуль, увесь час у штодзённым страху эвэнтуальнага нападу дзікуноў.

І ўсёж у той час, калі больш звычайнага ён быў паўшы на духу, калі цяжар адзінокіх гадоў прыгнятаў яго мацней чым калі, - Рабінзон пастанавіў, што калі дзікуны наведаюць ягоны абток, ён пойдзе да іх. З як далёка яны прыходзілі?Дзе іх краіна? Што за лодкі мелі яны? Ён лятуцеў з такім запалам, што забываўся думаць аб тым, што будзе рабіць, калі дзікуны сюды зьявяцца, або што станецца з ім, калі ён пападзецца ў іх рукі. Ягоная ўвага была занята адзінай думкай дабрацца да сухазёму, і ў снох ён ня сьніў ні аб чым іншым. Адзін раз ноччу ён кідаўся на пасьцелі, як у трасцы, ад духовага хваляваньня. Ён доўга ляжаў, прачнуўшыся, варочаўся, стагнаў, а нарэшце заснуў. І яму прысьнілася, ня так як звычайна апошнім часам, што ён плыў на кантынэнт, але што выйшаўшы са свайго замку на двор ён пабачыў на беразе дзьве лодкі і адзінаццаць дзікуноў, выходзіўшых на абток. Яны мелі з сабою чалавека, якога мелі забіць і зьесьці. Раптам нявольнік вырваўся і пабег, ратуючы сваё жыцьцё ўцёкамі. Рабінзон бачыў у сьне, што гэты чалавек бег, каб схавацца ў гушчары каля

замку і што ён вышаў, каб дапамагчы яму. Далей ён сьніў, што дзікун стаў на калены перад ім, просячы ў яго ратунку, і Рабінзон падаў яму драбіну, каб ён улез у замак, гаворачы да сябе: "Цяпер, калі я здабыў гэтага малайца, я напэўна траплю на сухазём, бо ён мне пакажа напрамак, куды плысьці і куды ісьці, выплыўшы на бераг".

І ён прачнуўся з радасным пачуцьцём, што цяпер усё будзе добра. Аднак, калі ён прачнуўся зусім і здаў сабе справу з таго, што гэта быў толькі сон, Рабінзон зусім паў на духу і адчуў сябе больш нешчасьлівым,чым калі небудзь перш за гады прабываньня на абтоку.

Тым ня менш Рабінзон зрабіў вывады са сну: адзіная магчымасьць пакінуць абток была зьвязана з вызваленьнем некага з нявольнікаў, якога людаеды рыхтаваліся забіць, і з ягонай дапамогай плысьці на лодцы праз мора.

Натхнёны такой думкай, ён вырашыў сачыць з большай чым дагэтуль пільнасьцю за тым, калі зьявяцца дзікуны.

Блізу штодзень на працягу паўтара году ён хадзіў на свой назіральны пункт і разглядаў мора праз падзорную трубу з надзеяй убачыць плывучыя чаўны.

Але чаўны ня плылі, і Рабінзон чуўся вельмі стомленым ад няспыннага чаканьня. Аднак ён не паддаваўся,ведаючы, што,перш ці пасьля, дзікуны зьявяцца ізноў.

Праходзілі месяцы, а яны не зьяўляліся. Адным ранкам, вельмі рана і зусім для яго нечакана, ён пабачыў ня менш пяцёх лодак, выцягненых на бераг тае часткі абтоку, дзе ён жыў. Дзікуноў, якія прыплылі, ня было відаць. Ён ведаў, што ў кожнай з лодак зьмяшчаецца ад чатырох да шасьці чалавек. Гэта значыла, што найменш дваццаць, а магчыма трыццаць дзікуноў вышла на бераг.

Гэта была большая колькасьць, чым тая, якой ён мог ставіць чало. Таму ён астаўся ў замку, у вялікай няпэўнасьці, што рабіць, але гатовы бараніцца, калі-б на яго напалі.

Калі, пачакаўшы доўгі час, ён ня чуў яшчэ дзікуноў, узьлез па драбіне на верх скалістага выступу, захоўваючы асьцярогу, каб не паказацца самому на фоне неба. Пазіраючы праз падзорную трубу,ён убачыў найменш трыццаць дзікуноў, якія дзіка танцавалі ўвакол агня.

Ен бачыў, як двое з іх адлучыліся ад рэшты, пайшлі да лодак і вялі стуль двох нявольнікаў. Адзін з іх паваліўся на твар, ударany ззаду, як здалося Рабінзону, дзеравянай булавою. Два ці тры людаеды зараз-жа разрэзалі яго і прыгатаўлялі, каб зварыць. На хвіліну, або дзьве, іншы нявольнік быў пакінуты сабе.

Пабачыўшы магчымасьць уцёкаў, ён зрабіў спробу ратаваць жыцьцё і кінуўся бегчы з усіх сіл уздоўж надбярэжнага пяску ў бок замку Рабінзона. Гэта моцна ўстрыво-

жыла Рабінзона, бо яму здалося, што ўсе дзікуны беглі на ўздагон за нявольнікам. Ен ня мог памагчы, думаючы, як у сьне, што чалавек знойдзе схаванку ў гушчары навакол замку. У гэтым выпадку Рабінзону давялося-б змагацца ў нявыгадным палажэньні дзеля таго, што ўсе людаеды былі-б супроць яго разам.

Няшчасны чалавек бег з надзеяй аб ратунку, яго аблягчала думка, што ён бяжыць хутчэй, чым ягоныя прасьледвальнікі, з якіх толькі трое яшчэ беглі ўздагон. Калі-б ён змог прабегчы так яшчэ мілю або дзьве, ня было сумніву, што ён выратуецца. Паміж замкам і бягучымі была невялікая букта, якую Рабінзон выкарыстоўваў для плаваньня паромаў з врака, і калі ўцякаўшы нявольнік наблізіўся да яе, скочыў у ваду і, хоць прыплыў быў у поўні, ён менш як трыццацьцю мінутнымі штуршкамі асягнуў процілежны бераг і даўгімі лёгкімі крокамі прадаўжаў свой бег.

З ягоных прасьледвальнікаў толькі двое кінуліся плысьці, але яны плылі ня так хутка, як уцякаўшы, бо яны задыхаліся ад бегу, таму што яны былі пераеўшыся. Трэці з прасьледуючых спыніўся зусім і вярнуўся назад.

Зарыентаваўшыся ў сытуацыі, Рабінзон рашыў, што настаў час, каб здабыць сабе слугу, і ён пастанавіў спрабаваць выратаваць уцякаўшага ад людаедаў.

Ен хутка спусьціў драбіну, схапіў дзьве стрэльбы і, клічучы ўцякаўшага, кінуўся бегчы як мага найхутчэй, каб разьдзяліць яго ад прасьледаваўшых. Уцякаючы азірнуўся і спалохаўся Рабінзона таксама, як прасьледаваўшых яго людаедаў. Рабінзон клікаў яго, даючы рукою знак вярнуцца і ў той самы час паволі йшоў у напрамку дзікуноў, якія зблiжаліся. Першага з бягучых дзікуноў ён ударыў прыкладам стрэльбы так, што той паваліўся бяз памяці, - Рабінзон не хацеў страляць, каб гук стрэльбы ня прывёў да яго рэшту людаедаў.

Другі з прасьледаваўшых дзікуноў, пабачыўшы паваленым свайго сябру, зьбянтэжыўся і затрымаўся. Зьбліжаючыся да яго, Рабінзон пабачыў, што дзікун мае лук і стрэлы і якраз зьбіраецца страляць. Яму ня было іншага выбару, як страляць першаму, што ён і зрабіў, забіваючы дзікуна на месцы.

Чалавек, якога прасьледавалі, так спалохаўся блеску і гуку ад стрэльбы і таго, што пабачыў сваіх суродзічаў паваленымі, што затрымаўся, як скамянелы, ад жаху, і Рабінзону каштавала шмат высілку, каб заахвоціць яго прыблізіцца. Нарэшце ён зрабіў гэта, затрымоўваючыся кожныя некалькі крокаў і падаючы на калены. Прыблізіўшыся, нарэшце, да Рабінзона, ён упаў ізноў на калены, пацалаваў зямлю, узяў нагу Рабінзона і паставіў яе сабе на галаву, якую паклаў на пяску.

Калі гэта адбывалася, Рабінзон заўважыў, што дзікун, якога ён прыбіў прыкладам стрэльбы, пачаў кратацца пасьля

таго, як да яго вярнулася прытомнасьць. Ён зьвярнуў на гэта ўвагу выратаванага ім чалавека, які гаварыў нейкія словы, якіх Рабінзон ня мог зразумець, але якія сваім гукам прыемна казыталі ягонае вуха, бо на працягу больш дваццаці пяці гадоў ён ня чуў чалавечага голасу, апрача свайго. Наступна ён зрабіў рух рукою, просячы такім чынам сякеру, вісеўшую на поясе Рабінзона, а калі атрымаў аружжа, падбег да суродзіча і адзіным ёмкім ударам адсек яму галаву. Потым узяў яе і, усьміхаючыся, прынёс ды паклаў каля ног Рабінзона разам з сякерай.

Найбольшым зьдзіўленьнем напаўняў яго дзікун, якога Рабінзон застрэліў з такое вялікае адлежнасьці. Ён пайшоў паглядзець на ягонае цела, пераварачываў яго з боку на бок, доўга прыглядаўся да раны, прабітае куляй у грудзёх, і быў відавочна разгублены ад зьдзіўленьня.

Рабінзон завярнуўся, каб адыйсьці згэтуль, паказваючы знакамі, каб дзікун сьледаваў за ім. Аднак той паказваў на мігі, што ён пахавае целы забітых у пяску, каб іншыя у выпадку пошукаў не маглі іх адшукаць. Голымі рукамі ён вельмі хутка выграб яму, дастаткова глыбокую, каб скрыць целы і менш чым праз чэцьверць гадзіны не асталося і сьледу таго, што тут здарылася.

Пасьля гэтага Рабінзон забраў яго з сабою, але ня ў замак, а ў пячору, дзе накарміўшы і напаіўшы знакам паказаў, каб клаўся адпачываць, паказаўшы пук рысавае саломы. Хутка дзікун заснуў здаровым сном. Гэта быў, так ацаніў Рабінзон, прыгожы і моцна збудаваны мужчына: мускулы ягоных рук, хрыбта і ног сьветчылі аб вялікай сіле, а ўсе часткі цела адзначаліся прыгожасьцю формы. Як Рабінзон у прыблізеньні дагадваўся, яму было блізу дваццаць шэсьць год. У яго было добрае, але адначасна мужнае аблічча і доўгія чорныя валасы. Нос і вусны меў, як эўрапэец, і белыя, роўныя зубы.

Ён ня быў чорнаскурым. Колерам скуры нагадываў колер шакаладу, а скура зьзяла здароўем і цешыла зрок.

## РАЗЬДЗЕЛ ВОСЬМЫ

### ЯК РАБІНЗОН ВУЧЫЦЬ ПЯТНІЦУ.

Падчас таго, як дзікун спаў, Рабінзон пайшоў даіць козаў. Пры гэтай рабоце знайшоў яго дзікун, калі прачнуўся праз поўгадзіны, і кінуўся яму да ног. Як і перш, ён узяў адну з іх і паставіў сабе на галаву. У гэты самы час ён рабіў знакі ўдзячнасьці і пакорлівасьці.

Рабінзон пачаў гаварыць да яго і прабаваў пазнаёміць яго з назовамі прадметаў. Перш за ўсё Рабінзон растлумачыў яму, што ён будзе называцца Пятніцай, бо Рабінзон выратаваў яго ад жахлівае сьмерці ў пятніцу.

Пасьля навучыў яго, што значаць словы "так" і "не" і сказаў называць сябе "панам".

Пятніца выказаўся вялікай пасьпяховасьцю ў вучобе. Ён адчуваў сябе шчасьлівым, здаволеным і вольным ад клопатаў, за выняткам таго, што вопратка, якую змусіў яго насіць Рабінзон, прычыняла яму вялікую недагоднасьць, бо тубыльцы цёплых краінаў зямное кулі ніколі ня носяць вопраткі, а ходзяць голымі. І гэта здаецца для іх здаравей. На перыяд дажджу яны змазываюць скуру алеем з какосавых гарэхаў. У выніку гэтага ваткасьць сплывае з іх целаў, не астуджваючы іх, і яны зьяўляюцца недаступнымі прастудзе, як пры нашэньні потнае вопраткі. Часам яны робяць зьвісаючыя апаяскі з шырокіх лістоў бананаў, якія дасягаюць двох або трох футаў даўжыні, і апаясываюцца імі ў паясьніцы. Часам для ўпрыгожваньня яны ўсаджваюць кармазынавыя кветкі за вушы, або навешваюць іх навокал шыі. Ніякое іншае вопраткі яны ня ведаюць.

І, на самай справе, вопратка магла-б быць толькі перашкодаю для тубыльцаў, якія, жывучы на беразе, часта праводзілі блізу цэлыя дні, плаваючы ў цёплым моры. Яны ніколі не палохаліся акулаў, бо плавалі таксама добра, як акулы, і ўмелі забіваць іх, нырнуўшы пад спод і прабіваючы ім бруха нажом. Малыя дзеці пачыналі плаваць - перш чым вучыліся хадзіць, а сем'і выплывалі ў мора на цэлыя дні. Аднэй з іх забаваў было нурцаваць у хвалі, калі яны бурлелі і пеніліся аб прыбярэжныя скалы і плысьці з імі лёгка, як трэска. Так яны гойдаліся на вяршынах вялізных хваляў, рагочачы з кожнага, каму не ўдалося ўтрымацца на паверхні вады. Ім здавалася, што гэта была найлепшая забава.

На другі дзень пасьля таго, як Рабінзон выратаваў Пятніцу, яны пайшлі разам над мора, каб паглядзець, ці няма людаедаў, якія, праўдападобна, паплылі з абтоку, не клапоцячыся пра двух забітых Рабінзонам сяброў. Навакола пагаслага вогнішча яны пабачылі жахлівыя астанкі целаў, кавалкі мяса, напалавіну абгрызеныя, напалавіну абпаленыя агнём чарапы, рукі і косьці ад сьцёгнаў і ног.

ён і ягоныя прыяцелі зьелі больш за дваццаць чалавек. Ён казаў, што ягонае племя вельмі сільнае і ваяўнічае. Да гэтага часу яны здабылі больш палонных і адведывалі гэты абток часьцей ад іншых плямёнаў.

Яму здавалася, што процілежны бераг абтоку, на якім Рабінзон бачыў так шмат сьлядоў людаедавых папасаў, лічыўся ўласнасьцю ягонага племені. Іншыя плямёны часам скарыстоўваюць для сваіх урачыстасьцяў другі абток. Усё, што Рабінзон пачуў ад Пятніцы аб жорсткасьці звычаяў тубыльцаў, хвалявала ягоную сьведамасьць. Аднак памаленьку, у меру таго, як праходзілі тыдні, ён растлумачыў Пятніцы, якой брыдкой справай зьяўляецца есьці чалавечае мяса. Ад гэтага пачынаньня Пятніца паступова рабіўся штораз больш падобным да белага чалавека ў сваім захаваньні. Шкаленьне яго прычыняла Рабінзону шмат радасьці, і ён лічыў, што гады пасьля прыбыцьця Пятніцы на абток былі самымі шчасьлівымі з усіх, якія ён тут пражыў. І гэта не таму толькі, што ён дапамагаў яму працаваць, але, галоўнае, ён меў з кім пагутарыць. За гады адзіноцтва ён блізу што забыўся сваю ўласную мову.

Калі яны пачалі лёгка разумець адзін другога, Рабінзон спытаўся Пятніцу, як далёка ад абтоку да ягонае краіны і ці ня тонуцца часта чаўны па дарозе. Пятніца расказаў, што ніякой небясьпекі ня было і што ніводзін човен яшчэ не ўтапіўся. Кожным раньнем вецер і рух вады адбываўся ў адным, а пасьля абеду ў процілежным напрамку. Рабінзон лічыў, што гэта павінна мець нешта супольнае з прыплывам і адплывам, але пазьней вывучыў, што зьмена ветру залежала выключна ад ветру з мора і ветру з сухазёму, якія дзьмулі стала ўраньні і ўвечар. Зьмена кірунку морскае вады стаялі ў залежнасьці ад руху вады вялікае ракі, насупроць вусьця якое ляжаў абток.

Пятніца шмат расказываў Рабінзону пра сваю краіну і свой народ, які ён называў карыбамі. Вялікая дарога "да месяца" вяла на захад, дзе жылі белыя людзі, якія хадзілі з такімі барадамі, як Рабінзон. Гэтыя белыя людзі, казаў ён, забілі шмат тубыльцаў, з чаго Рабінзон зрабіў вывад, што гэта павінны былі быць гішпанцы, якія пад той час былі вельмі лютымі да людзей тых краінаў, якія здабылі.

Рабінзон пытаўся, ці Пятніца можа сказаць яму, як дабрацца да белых людзей; Пятніца адказаў, што гэта вельмі лёгка, толькі патрэбна мець вялікі човен. Рабінзон пачаў рабіць пляны, як уцячы з абтоку. Ён паказаў Пятніцы лодку, на якой у свой час прабаваў уцячы з рэштай залогі тонучага карабля. Рэшткі яе яшчэ ляжалі на высокім беразе, куды не дасягалі хвалі самага высокага прыплыву, або найгоршае буры. Пятніца доўга пазіраў, нічога ня кажучы, покуль Рабінзон яго ня спытаўся, аб чым ён думае.

Тады ён адказаў, што ўжо некалі бачыў такую лодку,

але некаторы час ён ня мог вытлумачыць Рабінзону, дзе і калі яе бачыў. Рабінзон думаў, што нейкі карабель плыў да берагоў і лодка паходзіла з яго. Нарашце, Пятніца пачаў гаварыць пра людзей, якія былі ў лодцы і якіх народ ягонага племені выцягнуў з мора.

Ен лічыў на пальцах, каб даць зразумець Рабінзону, што іх было семнаццаць.

"Дзе яны цяпер?"- запытаў Рабінзон. Пятніца адказаў, што жывуць разам з ягоным племем. Гэта нав... Рабінзона на думку, што гэтыя людзі відавочна паходзілі з карабля, з якога ён аднойчы чуў стрэлы і які пасьля ён адведаў ляжачым на скалах.

Пятніца казаў, што ягоны народ карміў гэтых людзей і не рабіў ім шкоды.

"Чаму іх не забілі і ня зьелі?" - пытаўся Рабінзон, і Пятніца тлумачыў, выясьняў ізноў, што яны ядуць толькі тых, каго зловяць на вайне. Здарылася так, што Рабінзон з Пятніцай апынуліся на высокім узгор'і і ўва ўсходняй частцы абтоку. Дзень быў бясхмарны і вельмі ясны. Лёгкі ветрык казытаў паверхню вады, акурат так,як аднойчы шмат гадоў назад, калі Рабінзон пабачыў зямлю далёка за морам. Пятніца доўга і пільна ўзіраўся ў гэтым напрамку, а пасьля пачаў дзыгаць і танцаваць,паказваючы на ледзь бачны блакітны бераг.

"Там мая краіна! Глядзі! Там жыве мой народ - казаў ён, ягоныя вочы гарэлі радасьцю, а на шчоках загарэлася чырвань.

Пасьля гэтага Рабінзон на некаторы час страціў давер да Пятніцы. У яго зьявіўся некатары сумнiў, што калі Пятніцы ўдасца вярнуцца да ўласнага племені, ён хутка забудзе ўсё, чаго навучыўся, аб усім, што яму зрабіў, а нават магчыма вернецца з сотняю або двума сваіх прыяцеляў, каб забіць і зьесьці свайго пана. Аднак Рабінзон быў вельмі несправядлівым да Пятніцы ў гэтым,бо ён нічога падобнага ня думаў, у чым яго падазравалі.

Рабінзон сам хутка ў тым пераканаўся. Адзін раз, калі яны праходзілі праз тое самае ўзгор'е, ён запытаўся, ці Пятніца не схацеў-бы вярнуцца ў свой край.

"Але" - адказаў Пятніца, - "вельмі-б хацеў".
"Будзеш ізноў есьці чалавечае мяса?"
"Не, ніколі", - казаў Пятніца, трасучы адмоўна галавою.

Тады Рабінзон спытаўся, чаму ён не варочаецца да хаты. "Бо вельмі далёка плысьці", - казаў Пятніца. Рабінзон казаў, што дасьць яму лодку. Пятніца адказаў,-"вельмі добра", але ён паплыве толькі тады, калі Рабінзон згодзіцца плысьці разам.

"Але-ж твае людзі зьядуць мяне" - казаў Рабінзон.
"Не, не", адказаў Пятніца, "ты добры да мяне. Яны

будуць добрымі да цябе. Пасьля гэтага большую частку ўвагі Рабінзон зьвярнуў на тое, як-бы злучыцца з белымі людзьмі, што далі-б яму найлепшую нагоду збудаваць дастаткова вялікую лодку, каб плысьці ў Англію.

Ён завёў Пятніцу на тое месца, дзе кінуў некалі сваю лодку. Вельмі хутка Рабінзон пераканаўся, што Пятніца абыходзіўся з лодкаю значна лепш за яго і плаваў на ёй двойчы хутчэй, чым ён.

Аднак, калі Рабінзон запытаўся, ці магчыма на гэтай лодцы плысьці праз мора, абліччa Пятніцы стала сумным. "Яна замалая"- сказаў ён. Тады Рабінзон паказаў яму першую лодку, якую збудаваў на абтоку і якая праляжала на пяску больш, чым дваццаць два гады. Яна была дастаткова вялікай. Аднак яна пакарабацілася і пакорчылася ад сонечнай сьпекі за гэты час так моцна, што калі-б яны змаглі апусьціць яе на ваду, плысьці-б у ёй ня было магчыма.

І вось Рабінзон сказаў Пятніцы, што ён збудуе яму большую лодку, у якой пашле яго дамоў, але сам астанецца на абтоку, адзінокі, як дагэтуль.

Бедны юнак пачуўся вельмі нешчасьлівым і патаўся: "За што ты гневаешся на Пятніцу?"

"Калі ты, пане, паплывеш, паплыве Пятніца! Калі не паплывеш, Пятніца не паплыве таксама". Ён выхапіў сякеру і сказаў: "Забі Пятніцу, але не адсылай яго ад сябе". Такая адданасьць вельмі ўсхвалявала Рабінзона, і пасьля гэтага ён заўсёды давяраў Пятніцы.

## РАЗЬДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ

### РАБІНЗОН З ПЯТНІЦАЙ БУДУЮЦЬ ВЯЛІКУЮ ЛОДКУ. ВЫРАТАВАНЬНЕ ДВОХ ПАЛОННЫХ АД ЛЮДАЕДАЎ.

Пакольні жаданьне пакінуць абток было вельмі моцным, яны разам з Пятніцаю прыступілі да працы зваліваць дрэва для будовы лодкі дастаткова вялікай, каб плысьці на кантынэнт. Пятніца хутка даказаў, што ён далёка лепш ад Рабінзона разумеецца на гатунках дрэваў, патрэбных да будовы лодкі, хоць ён нічога не разумеўся на будове, бо ніколі ня бачыў прыладаў, патрэбных для гэтае працы. Пятніца радзіў выпаліць дрэва ў сярэдзіне, але Рабінзон паказаў яму, як карыстацца прыладамі і той вельмі хутка навучыўся, як з імі абыходзіцца.

Набудова лодкі забрала ім крыху больш месяца.

Яна выглядала вельмі прыгожа, і яны ганарыліся ёю. Аднак, апусьціць яе на ваду каштавала ім амаль два тыдні вельмі цяжкога высілку. Яны падкладалі пад яе вялізныя круглыя бярвеньні, а пасьля з дапамогаю пулаў - цаль за цалем - сьпіхнулі на мора, дзе яна паплыла вельмі ціха і стройна. Яна была дастаткова вялікай, каб панесьці дванаццаць чалавек.

Рабінзон зьдзіўляўся здольнасьцю Пятніцы веславаць такім вялікім чаўном. Ен, здавалася, ляцеў па вадзе, а Пятніца з вялікай лёгкасьцю паварачываў ім.

"Ці можна плысьці на ім праз мора?" - спытаўся ён Пятніцу, а той, паказваючы зубы, казаў: "Так, калі дасьлужыць вецер". Рабінзон не хацеў узалежніцца ад вёслаў. Ен загадаў Пятніцы сьсячы роўную маладую сасонку на машту, а спасярод старых карабельных ветразяў адшукаў два кавалкі яшчэ ня згніўшае матэрыі. З іх ён зрабіў ветразі. амаль два месяцы заняло яму парэзаць і прыладзіць іх, але калі скончыў і ўзьняў іх, яны дасавалі вельмі добра, а калі да лодкі прыладзілі няўклюднае стырно, ён сьцьвердзіў, што можна кіраваць вельмі дакладна і плысьці зусім бясьпечна і ўпэўнена пры ўмераным ветры.

Пятніца не разумеўся на плаваньні з дапамогаю ветразяў і надта дзівіўся, што лодка імчыцца гэтак шыбка. Аднак ён вельмі хутка навучыўся абыходзіцца з ветразямі і рабіў гэта ня горш Рабінзона. Аднае рэчы ня мог ён навучыцца, - гэта ар'ентавацца з дапамогаю компаса.

Дваццаць шэсьць гадоў мінула з тае пары, як Рабінзон прыбыў на абток, і хаця ягоная надзея пакінуць яго цяпер была вялікаю, ён усё-ж капаў, сеяў і абгароджваўся, як звычайна; зьбіраў і сушыў разынкі на той выпадак, калі-б яму давялося астацца ізноў там, дзе ён быў.

Перад пачаткам пэрыядаў дажджоў ён загадаў Пятніцы выкапаць недалёка невялікае букты нешта накшталт доку

для новае ходкі, дастаткова глыбокага,каб яна магла плаваць. Калі наступіў адплыў, яны збудавалі грэблю, каб отрымліваць ваду. Пасьля яны густа пакрылі лодку галінамі дрэваў. Там яна праляжала ў цішыні і сухая да канца дажджоў, на калі плянаваў Рабінзон выезд на сухазём.

За тыдзень або два перад надыходам сухое пары, Рабінзон надумаўся адкрыць док і дастаць лодку навонкі.Каб быць гатовым своечасова, ён пачаў зьбіраць запас харчоў і іншых рэчаў, патрэбных у дарозе.

Адным раньнем ён быў надта заняты працаю. Ен паслаў Пятніцу на бераг падшукаць чарапаху. Пятніца пайшоў, але праз некалькі часін вярнуўся, бягучы бегма з крыкам:"Пане, пане! О, бяда! О, няшчасьце!"

"Што здарылася, Пятніца? - пытаўся Рабінзон.

"Там", - казаў Пятніца, паказваючы на захад у вялікім сполаху, - "там - адзін, два, тры чаўны".

Рабінзон падбадзёрываў яго, як мог."Ну і добра, Пятніца!" - казаў ён, - "мы павінны змагацца з імі. Ты будзеш біцца?" "Так, Пятніца стралянць", - адказаў ён," але іх зашмат, іх ідзе вялікая сіла!"

"Нічога", - казаў Рабінзон, - "нашы стрэльбы іх спалохаюць, яны нас не заб'юць".

Пятніца абяцаў трымацца з ім да канца і рабіць дакладна ўсё, што ён загадае. Рабінзон заладаваў дзьве стрэльбы буйным шротам і перадаў іх Пятніцы; сабе ўзяў чатыры мушкеты, якія старанна наладаваў пяцьцю невялікімі кулькамі і двума халастымі зарадамі кожны, а ў пісталеты паўкладаў па дзьве кулі. Наступна прывесіў да боку сякеру і Пятніцу даў цясак.

Калі ўсё было гатова, узышоў на ўзгорак і праз падзорную трубу налічыў дваццаць аднаго дзікуна з трыма палоннымі. Яны выйшлі на абток недалёка за буктаю каля таго месца, дзе густыя кусты разрасьліся амаль да самога мора.

Пятніцы ён даў мушкет і пісталет, які той заткнуў за пояс. Так кожны з іх быў узброены ў пісталет і тры стрэльбы, апрача сякерак. Рабінзон узяў у кішэню бутэльку рому, а Пятніцы даручыў несьці мяшок з порахам і кулямі ды загадаў захоўвацца вельмі ціха і не страляць,пакуль Рабінзон ня скажа.

З мэтай падыйсьці да дзікуноў нябачна, ім давялося зрабіць блізу мілю лішняе дарогі, прычым яны не маглі хутка ісьці з увагі на цяжар ладунку, які нясьлі на сабе.

Па дарозе Рабінзон ізноў пачаў разважаць з сабою і надумляцца над тым, якая яму справа да дзікуноў, якіх ён ідзе забіваць, хоць яны ніколі не рабілі яму шкоды, якія

робяць толькі тое, што яны і наагул іх людзі рабілі ў працягу соцен гадоў. "Яны ня ўмеюць нічога лепшага"- казаў сабе Рабінзон, - "дык за што-ж ён павінен іх забіваць... Яго апанавалі такія сумнівы, што ён ня ведаў, як наступаць. Нарэшце пастанавіў, што пойдзе толькі паглядзець, як дзікуны захоўваюцца, але без паважнае прычыны не кране іх.

Калі яны прыблізіліся да месца, дзе дзікуны палілі вогнішча, Рабінзон выслаў Пятніцу наперад, каб той разьведаў, што там робіцца, а вярнуўшыся расказаў яму.

Пятніца папоўз, але вельмі хутка вярнуўся, гаворачы, што людаеды ўжо забілі аднаго з палонных і ядуць яго. Хутка яны заб'юць другога нявольніка, які ляжаў недалёка ад іх. Другі палонны, казаў Пятніца, быў белым чалавекам. Гэтая навіна адразу зьмяніла пляны Рабінзона, і ён ні хвіліны ня сумняваўся, што рабіць.

Падпоўзшы бліжэй, ён дакладна ўбачыў белага чалавека, што ляжаў са зьвязанымі рукамі і нагамі. Рабінзон заўважыў групу дрэваў і кустоў недалёка ад дзікуноў, скуль было вельмі лёгка ў іх страляць. Туды папоўз Рабінзон з Пятніцай.

- Нельга было страціць ні хвіліны, бо калі яны дасягнулі дрэваў, два дзікуны пайшлі да белага чалавека і пачалі разьвязываць ягоныя ногі. Рэшта людаедаў сядзелі цесна адзін каля другога.

Зварочваючыся да Пятніцы, Рабінзон казаў ціхім голасам: "Цяпер рабі дакладна, што буду табе казаць".

Яны абодва прыцэліліся ў гурбу дзікуноў.

"Ты гатоў, Пятніца?" - пытаўся шопатам Рабінзон.

"Гатоў!" - адказаў Пятніца.

"Агонь!"

Рабінзон стрэліў першы, забіваючы аднаго і ранячы двох; Пятніца зваліў двох мёртвымі і трох параніў. Схапіўшы іншыя стрэльбы, яны абодва стрэлілі ізноў, перш чым дзікуны, якім ня сталася ніякае шкоды, пасьпелі ўсхапіцца на ногі, бо ўсё было для іх нечаканасьцю, і іх вельмі перапалохаў гук стрэлаў. Няшчасныя істоты не маглі зразумець, што здарылася.

На гэты раз мёртвымі пала толькі двое, але было шмат больш параненых буйным шротам. Яны мітусіліся з выцьцём, пакуль ня падалі ад страты крыві.

"Цяпер, Пятніца", сказаў Рабінзон, узяўшы адзін з астаўшыхся наладаваных мушкетаў, "ідзі за мною. І вось ён выскачыў з лесу, а зараз-жа за ім Пятніца. Ен з усім імпэтам зваліўся на дзікуноў.

Рабінзон загадаў Пятніцы страляць у іх, і Пятніца, падбегшы, стрэліў. Мужчыны ў лодцы пападалі, двое мёрт-

вым'. і адзін ранены. Астатнія, здавалася, пападалі ад страху, бо яны хутка паўскаківалі і пачалі з усіх сіл .вёславаць.

У той час, калі Пятніца быў заняты стралянінай, Рабінзон падбег да белага вязьня, разрэзаў ягоныя путы, дапамог яму ўзьняцца на ногі і даў яму напіцца рому з бутэлькі, якую меў з сабой.

Чалавек, запытаны пра нацыянальнасьць, назваўся гішпанцам. Ён дзякаваў Рабінзону за ўсё, што ён зрабіў. Рабінзон, як' крыху ўмеў гутарыць пагішпанску, спыніў яго, кажучы: "Пане, мы пагутарым пасьля, а цяпер трэба змагацца." Пры гэтым ён падаў гішпанцу сякеру і пісталет, гаворачы да яго, што калі ён чуецца дастаткова моцным, няхай прадпрыме штонебудзь проціў дзікуноў.

Як толькі гішпанец займеў сякеру, кінуўся з фурыяй на людаедаў і зарубаў двох, пасьля чаго зьвярнуўся і кінуўся на рэшту.

Рабінзон паслаў Пятніцу за мушкетамі, пакінутымі паміж дрэвамі, і пачаў іх хуценька нанова ладаваць, даўшы Пятніцы мушкет, які ён сам прынёс, але з якога яшчэ ня стрэліў.

У міжчасе гішпанец заатакаваў вельмі вялікага і сільнага дзікуна, узброенага дубцом. Ён двойчы зраніў дзікуна сякерай у галаву, аднак белы чалавек сам быў аслаблены тым, што доўга ляжаў зьвязаны і відавочна праіграваў змаганьне. Дзікун штурхнуў яго, абхапіў і пачаў тузаць, у змаганьні блізу ня выхапіўшы з ягоных рук сякеры. Аднак, гішпанец, вызваліўшыся раптоўна з абдымкаў, выхапіў пісталет і прастрэліў дзікуна, забіўшы яго на месцы.

Рэшта тубыльцаў рассыпалася ў розных напрамках. Пятніца ганяўся з сякераю за імі і забіваў усіх, за вынняткам аднаго, што зранены гішпанцам у гарачцы ад ранаў кінуўся ў мора і паплыў да чаўна, дзе было яшчэ двох, якім давялося ўцячы.

Пятніца радзіў Рабінзону ўзяць адзін з астаўшыхся чаўноў і плысьці за імі. Рабінзон згадзіўся, бо думаў, што калі нехта з дзікуноў уцячэ, дык напэўна пасьля вернецца сюды і прывядзе сотні такіх-жа, як сам, каб памсьціць сьмерць сваіх сяброў. І вось яны пабеглі на бераг і пачалі штурхаць у ваду човен. Зусім нечакана на дне чаўна яны знайшлі яшчэ аднаго нявольніка.

Гэта быў стары чалавек. Ён быў гэтак моцна зьвязаны, што калі разрэзалі ягоныя вузы, ён ня мог рухацца і стагнаў, лежачы, бо яму ўсё здавалася, што яго разьвязалі патое, каб зараз забіць.

Рабінзон падаў Пятніцы ром, каб той уліў яго беднаму чалавеку ў горла. Гэта ажывіла яго, і ён сеў.

Як толькі Пятніца ўгледзеў ягоны твар і пачуў ягоную мову, зараз-жа пачаў танцаваць, ускрыкваць і сьмяяц-

ца. Ён упаў на калены і пачаў церці свой нос аб нос дзікуна / у гэтых людзей гэта абазначае тое самае, што пацалунак у нас /. Ён быў так моцна ўсхвалёваны, што некаторы час ня мог вытлумачыць, у чым справа. Калі Пятніца ізноў змог гаварыць, ён расказаў Рабінзону, што чалавек, якога яны знайшлі, быў ягоным бацькам. Рукі і ногі нешчасьлівага чалавека былі нацёрты і скасьцянелі ад путаў, яго паліла смага.

Пятніца зьбегаў за вадою для яго, а пасьля расьцёр ромам бацькавы ногі і рукі. Тое самае было з гішпанцам, якога цела было жахліва парэзана вяроўкамі і спухла. Пры гэтым падчас змаганьня ён настолькі выбіўся з сілаў, што Пятніцы прышлося нясьці яго на плячох у човен. Пасьля Пятніца павёз абодвух хворых на чаўне да бухты, у той час, як Рабінзон ішоў напешкі. Для абодвух мужчын прыйшлося збудаваць палатку вонкі плоту, бо ня было магчымасьці перанесьці іх праз плот.

На наступны дзень Рабінзон паслаў Пятніцу закапаць целы пазабіваных дзікуноў і прынесьці мушкеты.

Калі гэта было зроблена, ён сказаў Пятніцы запытаць ягонага бацьку, як ён думае, ці вернуцца дзікуны, каб памсьціцца. Той адказаў, што людаеды так моцна спалохаліся нечаканага нападу, грукату стрэльбаў, дыму і бляску стрэлаў, што напэўна ніколі больш сюды ня зьявяцца. Пасьля спраўдзілася, што стары чалавек меў рацыю, бо ніводзін людаед не паказаўся на абтоку пасьля гэтага выпадку.

## РАЗЬДЗЕЛ ДЗЕСЯТЫ

### ПРЫБЫЦЬЦЕ АНГЕЛЬСКАГА КАРАБЛЯ. РАБІНЗОН ВАРОЧАЕЦЦА ДАМОЎ.

Хутка пасьля здарыўшагася, Рабінзон гутарыў з гішпанцам. Апошні расказаў яму, як чатыры гады таму назад ён з сябрамі пацярпеў караблекрушэньне насупраць тае часткі ўзьбярэжжа, дзе жыло племя Пятніцы. Гішпанец казаў, што тубыльцы абходзіліся з імі вельмі добра, але яны адчувалі вялікі недахоп вопраткі, зужылі ўвесь порах і згубілі надзею некалі вярнуцца на бацькаўшчыну.

Ён сам, казаў гішпанец, трапіў у палон у адной з шматлікіх маленькіх войнаў паміж рознымі плямёнамі.

У Рабінзона зьявілася думка, што магчыма было-б добра заклікаць гэтых людзей на ягоны абток. Ён спадзяваўся і верыў, што гэтыя людзі выкажуцца добрай воляй і не адбяруць ад яго абтоку.

Гэта было рызыкоўна, але калі-б ён меў так шмат людзей, ня было-б ніякое цяжкасьці пабудаваць невялічкі карабель, на якім яны-б усе заплылі ў Англію.

Рабінзон запытаў гішпанца, што ён думае пра ягоны плян, і ці ўдасца яму атрымаць прысягу сваіх сяброў, што яны за Рабінзонаву дапамогу будуць яго лічыць сваім капітанам і ўва ўсім будуць яго слухацца. Гішпанец безадкладна даў такое абяцаньне ад сябе і сказаў, што ён упэўнены ў тым, што ягоныя сябры таксама выкажуцца добрай воляй.

І вось яны ўмовіліся, што больш менш за шэсьць месяцаў, калі пасьпее наступнае жніво і хопіць харчоў для такой колькасьці людзей, гішпанец з бацькам Пятніцы паплывуць у адным з пакінутых дзікунамі чаўноў на сухазём.

Між тым усе рукі былі занятыя сушэньнем вялікае колькасьці радзынак і выкананьнем рознае іншае работы пры падрыхтоўцы для спатканьня людзей.

Калі наступіла жніва, Рабінзон даў гішпанцу і бацьку Пятніцы па адной стрэльбе і запас пораху з кулямі, наладаваў човен харчамі ў колькасьці дастатковай на чатырнаццаць дзён для іх і для людзей, якіх яны павінны былі прывезьці.

У прыгожую пагоду, пры спрыяльным ветры, яны паплылі на кантынэнт.

Пасьля гэтага мінула восем дзён, і Рабінзон пачаў выглядаць іхнага звароту. Адной раніцы, калі Рабінзон яшчэ спаў, прыбег Пятніца з крыкам: "Пане, пане! Яны плывуць!" Рабінзон ускочыў, насьпех апрануўся і выбег.

Пазіраючы ў бок мора, ён убачыў лодку з ветразем, якая хацела падплысьці да берагу на паўдзённым канцы аб-

току, але яшчэ было за некалькі міляў у моры. Гэта ня быў напрамак, з якога павінен быў зьявіцца гішпанец з сябрамі. Ня было праўдападобным, каб яны плылі на лодцы з ветразем. Рабінзон узяў падзорную трубу і ўзышоў на верхавіну ўзгорка, каб разгледзець, хто быў на лодцы, перш чым яны выйдуць на бераг.

Ледзь толькі ён узышоў на верхавіну ўзгорка, як убачыў карабель, стаяўшы на котве ў поўнай адлежнасьці ад берагу. Ён выглядаў на ангельскі ветразьнік, а лодка нагадвала ангельскі баркас.

Гэта быў цудоўны абраз для Рабінзона, але ён моцна непакоіўся. Гэта ня была тая частка сьвету, якую ахвотна адведвалі ангельскія караблі. Па водах гэтае часткі акіяну ў тыя дні плавалі амаль выключна гішпанскія караблі. А гішпанцы былі заядлымі ворагамі ангельцаў. Што мог тут рабіць ангельскі карабель... То-ж ня было буры, якая-б магла адхіліць яго ад сапраўднага шляху.

Рабінзон баяўся, што калі гэта і быў ангельскі карабель, дык нешта з ім было не ў парадку. Магчыма, ён думаў, гэта было судно піратаў. І ён прадбачліва пастанавіў не паказвацца.

Наступна, крыху пасачыўшы, ён пабачыў, што людзі ў лодцы прыплылі да берагу, прыкладна, у поўмілі ад ягонага замку.

Калі яны выйшлі на бераг, ён праз шкло пазнаў у іх ангельцаў.

Іх было адзінаццаць чалавек; трое з іх былі са зьвязанымі з-заду рукамі, - відавочна, вязьні.

Калі першыя чатыры, або пяць чалавек саскочылі на бераг, яны зьнясьлі трох зьняволеных, з якімі абыходзіліся вельмі дрэнна.

Яны захоўваліся так, быццам маніліся забіць сваіх вязьняў. Пятніца быў упэўнены ў тым, што яны хочуць іх зьесьці.

Хутка яны рассыпаліся паміж дрэвамі каля берагу, ня турбуючыся пра трох вязьняў, якіх пакінулі сядзець на зямлі. У іх былі заклапочаныя твары, але яны мелі ўжо разьвязаныя рукі.

У момант, калі лодка прыплыла да берагу, быў прыплыў, і стаяла высокая вада.

Двое матросаў, пакінутых для апекі, відавочна пасьнулі, напіўшыся зашмат рому. Яны ня прыкмецілі, як пачаўся адплыў. Калі яны прачнуліся, лодка ляжала высока на сухім ужо беразе. Спробы матросаў сапхнуць лодку ў мора ня мелі ўдачы, бо пясок у гэтай частцы барагу быў вельмі сыпкім. Аднак, гэта ня вельмі моцна турбавала іх, бо Рабінзон пачуў, як адзін з матросаў крычаў: " Пакінь

ле, Джэк! Пачакаем наступнага прыплыву!"

Цэлае раньне Рабінзон сачыў за імі, а калі наступіў найбольш знойны час дня, ён заўважыў, што матросы пакіdaліся на зямлю пад дрэвамі і паснулі ў даволі вялікай адлежнасьці ад вязьняў.

Тады Рабінзон з Пятніцай, пабраўшы стрэльбы і пісталеты, падкраліся асьцярожна да трох мужчын, каб пагутарыць з імі так, каб іншыя ня ведалі.

Рабінзон апрануўся ў свой пільчак з казінае скуры і ўзьдзеў шапку з доўгім валосьсем. З сякерай і пісталетамі за поясам і стрэльбамі на кожным плячы, ён выглядаў вельмі грозна.

Вязьні ня бачылі яго да тае пары, пакуль ён не загаварыў. Ягоны дзікі выгляд спалохаў іх. Убачыўшы двох да зубоў узброеных мужчын, яны амаль што ня кінуліся ўцякаць. Рабінзон сказаў ім не паднімаць трывогі, бо ён англелец і прыяцель іх. Ён можа ім дапамагчы, калі яны скажуць яму, як гэта зрабіць.

І вось яны расказалі, што з імі здарылася... Адзін з трох быў капітанам карабля, які ляжаў на котве насупроць абтоку.

Спаміж астатніх двох адзін быў боцманам, а другі пасажырам. Капітан расказаў Рабінзону, што матросы ўзбунтаваліся процiў яго і закавалі яго з двума сябрамі ў ланцугі.

Падпальшчык бунту падбухторваў, каб забіць іх. Зараз бунтаўшчыкі надумаліся пакінуць іх на абтоку на загубу.

Капітан, калі пачуў, што нехта яму прапануе дапамогу, быў так моцна зьдзіўлены, што сказаў: "Хто гаворыць да мяне: чалавек, ці анёл з неба?"

"Калі-б Бог пасылаў анёла, пане",- адказаў Рабінзон, "дык-бы напэўна ён зьявіўся лепш апранутым".

Наступна ён запытаўся, ці матросы маюць якое-колечы агнястрэльнае аружжа.

Яму сказалі, што яны маюць толькі два мушкеты, пры чым адзін з іх быў пакінуты ў лодцы. "Дык мы лёгка з імі дамо раду", сказаў Рабінзон, "мы можам іх усіх пазабіваць, або ўзяць у палон, як вы жадаеце".

Капітан не хацеў дапусьціць да забойства матросаў і казаў, што калі-б яму ўдалося пазбыцца двох найгоршых падпальшчыкаў, дык, ён верыць, рэшта вернецца да выканання сваіх абавязкаў.

Рабінзон паставіў варунак, што калі яму ўдасца вызваліць капітана ад бунтаўнікоў і зьвярнуць карабель, яго і Пятніцу павінны завезьці бясплатна на караблі ў Англію.

Капітан і ягоныя сябры на варунак згадзіліся.

Тады Рабінзон даў кожнаму з іх па мушкету з порахам і кулямі, пасьля чаго капітан, боцман і пасажыр пакрочылі да таго месца, дзе спалі бунтарныя матросы. Адзін з матросаў пачуў рух і, павярнуўшыся, убачыў іх ды пачаў клікаць сяброў. Аднак было ўжо запозна. Боцман і пасажыр стрэлілі, і адзін з падпальшчыкаў бунту ўпаў мёртвы.

Другі бунтар упаў таксама, але зараз-жа ўскочыў і пачаў клікаць іншых на дапамогу.

Капітан ударыў яго прыкладам стрэльбы і паваліў далоў. Рэшта матросаў, пабачыўшы ідучых Рабінзона і Пятніцу, зар'ентавалася, што ня мае шансаў біцца проціў пяці ўзброеных мужчынаў і пачала прасіць ласкі. Тры іншыя матросы, якія былі заблудзіўшыся паміж дрэвамі і вярнуліся, пачуўшы стрэл, пачуўшы стрэл, падаліся таксама. Гэткім чынам усе матросы з лодкі былі ўзяты ў палон.

Капітан з Рабінзонам пачалі надумляцца, як-бы зьвярнуць карабель. Капітан казаў, што на караблі былі розныя людзі, на якіх, яму здаецца, можна было аперціся і якіх да бунту змусілі супроць іх волі. Тым ня менш зьвярнуць карабель ня будзе вельмі лёгкай справай, бо на караблі было дваццаць шэсьць чалавек, вінаватых у бунце, якім у выпадку звароту ў Англію пагражае шыбеніца. Дзеля гэтага яны напэўна будуць біцца супроць іх.

Першым чынам Рабінзон з сябрамі пастараліся забраць з лодкі ўсякія прадметы - вёслы, машт, ветразь, стырно, а пасьля яны прабілі дзірку ў дне так, што яна не магла плысьці. Падчас таго, як яны былі заняты гэтым і выцягваньнем лодкі на бераг, яны пачулі адзін, а пасьля другі стрэл на караблі. Гэта быў знак, каб лодка варочалася да яго.

Калі-ж яна са зразумелых прычынаў ня рухалася, Рабінзон пабачыў праз падзорную трубу, як ад карабля аддзялілася другая лодка з дзесяцьцю матросамі, узброенымі ў стрэльбы. Яны плылі на абток за сябрамі.

Гэта была паважная сіла. Рабінзон і ягоныя сябры надумляліся над тым, як-бы захапіць у палон і гэтых матросаў.

Тым матросам, якіх яны ўжо захапілі ў палон, яны пазьвязвалі рукі. Горшых спаміж іх адаслалі пад аховаю Пятніцы і аднаго з матросаў, якому верыў капітан, у пячору. Прычым іх папярэдзілі аб тым, што іх застрэляць пры спробе падняць трывогу, або ўцячы. Тады Рабінзон забраў сваіх сяброў і рэшту вязьняў у замак, адкуль яны са скалы назіралі за высадкай другое лодкі.

Капітан і боцман былі моцна падэнэрвованы і страцілі надзею заваладаць новым аддзелам матросаў.

Аднак, Рабінзон быў упэўнены ў удачы і падбадзёрываў іншых сваім вясёлым настроем.

- Паміж вязьнямі, пакінутымі ў замку, было двое, якіх капітан лічыў чэснымі людзьмі. Яны ўрачыста паабяцалі капітану быць вернымі і біцца за яго. Пасьля гэтага Рабінзон звольніў іх з палону.

Матросы з другое лодкі, высеўшы на бераг, былі моцна зьдзіўлены, калі ўбачылі першую лодку пустою і паламанаю. Яны выглядалі зьбянтэжанымі і радзіліся, што рабіць далей. Пасьля яны пачалі клікаць і страляць. Не атрымаўшы адказу, яны відавочна занепакоіліся, паўскаквалі ў лодку і паплылі ў напрамку карабля. Праз некалькі хвілін яны зьмянілі плян, бо ізноў паплылі да берагу і выселі. На гэты раз яны пакінулі трох спаміж сябе для аховы лодкі, кінутае на вадзе.

Сем матросаў, трымаючыся гурту, пайшлі на абток шукаць сваіх згубіўшыхся сяброў. Аднак яны ня йшлі далёка, а хутка затрымаліся і ізноў пачалі клікаць ды страляць. Не атрымаўшы ніякага адказу, яны пачалі варочацца да мора. Між тым Рабінзон загадаў боцману і Пятніцы ісьці за букту на захад і стуль моцна гукаць, а пасьля чакаць, пакуль адкажуць матросы. Наступна боцман і Пятніца ішлі далей ды клікалі ізноў. Такім чынам яны манілі матросаў адыходзіць ад берагу далей і далей.

Гэты плян апраўдаўся вельмі добра. Матросам здавалася, што яны чуюць клічы сваіх згубіўшыхся сяброў, і яны кінуліся на пошукі іх. Калі іх дарогу перагарадзіла букта, яны прыклікалі лодку, каб пераправіцца праз ваду. Аднаго з трох пакінутых на лодцы матросаў яны ўзялі з сабою, а іншым загадалі схаваць лодку ў цяні дрэваў і астацца каля яе.

Гэтага якраз і хацеў Рабінзон. Больш таго: адзін з матросаў быццам сам прасіўся ў ягоныя рукі. Ён пакінуў лодку і лёг спаць пад дрэвамі. На яго напаў капітан і - і звалі ў далоў, калі ён хацеў ускочыць. Матрос, які быў у лодцы, паддаўся дабравольна, бо ён неахвотна далучыўся да бунтаўнікоў і зараз быў рад скарыстаць з нагоды, каб ізноў зьвярнуцца на бок капітана.

Між тым Пятніца з боцманам, клічучы рэшту матросаў, вадзілі іх з узгорка на ўзгорак праз лясы да таго часу, пакуль тыя ня зьбіліся з дарогі. Знайсьці дарогу назад ім не ўдалося да надыходу цемры. Калі яны прыйшлі на месца, дзе былі пакінуўшы лодку, і пабачылі, што матросы, якім яны даручылі вартаваць яе, зьніклі разам з ёю, - іх апанаваў страх.

Для Рабінзона і ягоных людзей ня было цяжкасьці абкружыць іх. Здарылася так, што памочнік боцмана, які быў самым вялікім нягоднікам у таварystве і віноўнікам усіх неспакойстваў, праходзіў каля капітана, і апошні застрэліў яго... Іншыя паддаліся. Яны паверылі сказанаму, што іх абкружыла пяцьдзесят узброеных чалавек. Кожны з іх

прасіў даравацъ яму жыцьцё. Некаторых, якім давяраў капітан, пакінулі на волі пад варункам дапамагчы авалодаць караблём. Іншых зьвязалі і адвялі ў пячору.

Рабінзон і Пятніца асталіся на беразе пільнаваць вязьняў, а капітан з боцманам, пасажырам і даверанымі матросамі наладзілі прабітую лодку, паслі ў яе ды паплылі да карабля, які асягнулі апоўначы. Калі яны дастаткова прыблізіліся да карабля, капітан загадаў аднаму з матросаў крыкнуць, што яны зьвярнуліся з лодкаю і людзьмі, каторых шукалі. Абедзьве лодкі падплылі да карабля з двох бакоў і пакуль бунтаўнікі здолелі агледзецца, што здарылася, іх абясшкодзілі, забіваючы аднаго, ці двох. З людзей капітана пацярпеў адзін толькі боцман, якому прастрэлілі руку.

Зараз-жа пасьля здабыцьця карабля, капітан загадаў выстраліць сем разоў з гарматы. Гэта быў умоўлены знак Рабінзону аб посьпеху.

Побыту Рабінзона на абтоку настаў канец. Пасьля больш чым дваццацівасьмігадовага прабываньня тут ён і Пятніца зьбіраліся плысьці ў Англію. Некаторых з бунтаўнікоў пакінулі на абтоку. Яны мелі далучыцца ў будучыні да гішпанцаў, якім Рабінзон пакінуў ліст.

Пакідаючы абток, Рабінзон не забыўся забраць грошы і золата, якое ўзяў на враку гішпанскага карабля. На памятку ён забраў з сабою пільчак з казінае скуры і вялікі валасаты капялюх. Яшчэ перад адплыцьцём карабля капітан даў Рабінзону вопратку, нашэньне якое спачатку прычыняла яму вялікую нявыгоду.

Падарожжа трывала доўга, але нарэшце яны ўбачылі берагі Англіі.

Трыццаць пяць гадоў таму назад Рабінзон апошні раз хадзіў па Ангельшчыне. Раніцай, калі нарэшце пасьля доўгіх гадоў выгнаньня Рабінзон ізноў угледзеў радзімы край, ён схіліў голаў на рукі і заплакаў, як дзіцянё.

# РЭФЛЕКСІІ МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(Пасьляслоўе выдаўца)*

Праглядаючы рукапісныя, ратапрынтныя, рататарныя, машынапісныя і ўвогуле самадзейныя выданьні эмігрантаў-беларусаў, асабліва выдадзеныя ў цяжкія 40-я ды 50-я гады, найперш не магу не сказаць пра рэфлексіі і ўражаньні, якія яны выклікаюць. Гэта безумоўны фэнамэн, калі людзі, апынуўшыся на чужыне ў цяжкіх сацыяльных умовах, першым чынам шанавалі і множылі між сабой здабыткі беларускай культуры. І ўсё гэта дзеля агульнай супольнасьці, дзеля духоўнага і культурнага спажытку.

Перапісвалі ад рукі, перадрукоўвалі вершы вялікіх паэтаў, творы беларускіх пісьменьнікаў, "Пінскую шляхту" Марцінкевіча, паэмы ды апавяданьні, выпускалі рэлігійныя, маладзёвыя, літаратурныя, медыцынскія, палітычныя, сатырычныя ды іншыя часопісы. Прытым часта размалёўвалі вокладкі каляровымі алоўкамі, пісалі ад рукі загалоўкі, шрыфты, рабілі каляровыя мініятуры ў сярэдзіне тэксту, як у раньнім рукапісным сярэднявеччы. За ўсім гэтым адчуваецца цяпло чалавечых рук і прыхільных сэрцаў. Гэты нестандарт, гэты шчыры прымітывізм ад добрай душы ўплывае і ўражвае асабліва цяпер, праз шмат гадоў, у іншым часе сярод іншых людзей, у іншым пакаленьні. Гэта як прымітыўны самадзейны жывапіс, дзе парушаныя, здавалася б, усе правілы малюнка, пэрспэктывы, нават логікі асэнсаваньня, але тым ня менш ён уражвае і прыцягвае сваёй шчырасьцю, непасрэднасьцю, нетрывіяльнымі наіўнымі вобразамі і натуральнымі пачуцьцямі.

Вядома, гэтае маё параўнаньне кніжнага і жывапіснага мастацтва крыху нацягнутае. Тут у кніжнай дзейнасьці замежных беларусаў уражвае найбольш тое, як у цяжкіх умовах усімі спосабамі хапаліся за культуру і за беларускае слова, каб выжыць як нацыя, як культурная супольнасьць.

Калі адасобіцца ад рэфлексіі і падыйсьці цяпер рацыянальна да гэтай своеасаблівай спадчыны, то ў чым усё ж ёсьць яе значэньне для цяперашняга часу?

Я б вылучыў тры аспэкты. Найперш гэтая літаратура і друкі адбіваюць эпоху і ўмовы, у якіх жыло і дзеяла цэлае пакаленьне

беларусаў, што апынуліся на чужыне. Іхны вопыт і апісаньні ёсьць важныя, пазнавальныя і павучальныя для нашчадкаў.

Другі аспэкт -- зьмястоўны. У гэтых выданьнях рассыпана шмат добрых думак, фармулёвак, інфармацыі і дасьледваньняў. Асабліва што датычыць часопісаў на рэлігіўную і моладзевую тэматыку. Таксама тут друкаваліся вершы і творы беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў замежжа.

І трэці аспэкт, які я лічу на сёньняшні дзень самым істотным і актуальным, -- гэта стыль, лексіка, сінтаксіс і ўвогуле выдатная і асаблівая беларуская мова, у якой напісаныя гэтыя часопісы, брашуркі і выданьні, як кажуць, нават з усімі моўнымі агрэхамі.

Цікавая стылістыка ў перакладчыкаў, інфарматараў ды публіцыстаў у "Беларускай мікрадзяржаве Ватэнштэт". Тут адлюстраваліся ня толькі сьветапоглядныя дачыненьні, але (і даволі яскрава) "мікрапалітыка" ў гэтай "дзяржаве", барацьба за дэмакратыю і ўладу, за ўплывы і справядлівасьць. Выдаваліся розныя інфармацыйныя матэрыялы.

Вельмі цікава чытаць лягерны часопіс "Летапіс". Як для мяне (чалавека, які любіць добры стылёвы гумар), дык чытаць гэты "Летапіс" -- адно задавальненьне. Практычна, усе матэрыялы прасякнуты своеасаблівым беларускім гумарыстычным стылем. Тут я вельмі пазнаю беларуса, ягоныя паводзіны, ацэнкі ў складаных грамадзкіх сытуацыях. Апісваецца ўсё гэтак амаль лагодна, без ніякай злосьці і сарказму, у стылі, блізкім да прамовы Мялешкі Смаленскага.

Вось, напрыклад, у "дзяржаву Ватэнштэт" прышло распараджэньне акупацыйнага начальства правесьці выбары і выбраць камэнданта. Дзеючым камэндантам быў чалавек аўтарытарны (дарэчы, гэты ж самы перакладчык "Рабінзона ... " Сьвятаслаў Коўш), які не хацеў саступаць пасаду прэзыдэнта (прабачце, "каманданта") "дзяржавы Ватэнштэт".

Пачалася выбарчая кампанія, перадвыбарчая гонка ды агітацыя. "Летапіс" асьвятляе выбары. Друкуюць, напрыклад, "прамову" камэнданта. Пачынаецца яна так:

"Паважаныя грамадзяне! Я склікаў сягоньня гэты сход у справе выбару новага каманданта нашага лягеру. Выбачайце, я памыліўся, ня новага каманданта, а каманданта наогул. Ня думайце толькі, што мне патрэбныя выбары. Мне і бяз выбараў добра. Але такі загад уладаў, дык нічога ня зробіш, трэба рабіць выбары.

Паважаныя грамадзяне! Мы ўсе паходзім з Краіны, дзе бруіць блакітны Нёман і іншыя рэкі, якія вы ведаеце. Усе мы хочам вярнуцца туды, дзе засталіся нашыя блізкія. Але вярнуцца можна, або зараз, або пачакаўшы. Дык прыступаючы да выбараў, раджу вам усім аб гэтым добра памятаць. З нашага лягеру можна выехаць цягнікам на Захад, але можна выехаць і на Усход і дзеля гэтага варта перад выбарам каманданта аб гэтым падумаць, бо, выбраўшы благога каманданта, а не мяне, можна вярнуцца да хаты хутчэй, чым хацелася... Даю вам беларускае слова."

У "Летапісе" друкавалі артыкулы, фэльетоны, гумарэскі, нават кінасцэнары на мясцовую "палітычную тэму". Тут цікавая ня толькі добрая мова, якой напісаны гэтыя матэрыялы, але і прыклады ўзаемадачыненьняў, так бы мовячы, "нацыянальны палітстыль" у "дзяржаве Ватэнштэт". Вось, напрыклад, інфармацыя:

"У лягеры АБЦ Ватэнштэт адбыліся выбары царкоўнага старасты. У Царкве прысутных было 120 вернікаў. На кандыдата, выстаўленага коламі лягернай адміністрацыі, галасавала 40 вернікаў.

На пытаньне хто проціў кандыдата адміністрацыі -- не адазваўся ніхто. На пытаньне: Хто ўстрымаўся -- таксама не адазваўся ніхто".

Во, пазнаю! Пазнаю, спадарства, -- гэта мы, беларусы, і ніхто іншы. Іншыя б крычэлі, лаяліся, кабеты чапляліся б за валасы, а тут ціха, спакойна, дэмакратычна галасуем, шануем адміністрацыю, ніхто -- супраць, ніхто -- ня ўстрымаўся, а кандыдат сьпёкся. Вучэмся!

Альбо такая інфармацыя:

"У польскай газэце "Новіны" №41, якая выходзіць у Квакенбрык, зьмешчаны адкрыты ліст, ськіраваны супраць каманданта лягеру ў Гальтэрн, дзе падпісаўшыя яго, асуджаюць варожую для польскасьці на эміграцыі дзейнасьць вышэйазначанага каманданта лягеру.

Са зьдзіўленьнем мы заўважылі сярод гэтых абаронцаў польскасьці людзей, якія ў іншых абставінах хочуць, каб іх лічылі беларусамі. Гэтымі асобамі зьяўляюцца: праваслаўны сьвятар Анатоль Кунцэвіч, лекар Мікола Мінкевіч і Анатоль Панько."

Пазнаем. Гэта -- мы, беларусы. Шкода толькі, што карэспандэнт не праверыў яшчэ справы ў прамаскоўскіх "зарубежнікаў", ато тыя прозьвішчы пэўна б і там угледзіў. Ёсьць такія шматстаночнікі, існуюць па сёньняшні дзень: самы ёсьць беларусы, карыстаюць "карту паляка" і хваляць "русский мир".

Некалі, у 70-х гадах, у добры для радыёхваль пагодны дзень, слухаючы забароненае замежнае радыё, я злавіў нейкую беларускую радыёстанцыю (здаецца "Радыё Ватыкан") Адтуль я пачуў пра беларускі замежны праваслаўны часопіс "Зьвіняць званы сьвятой Сафіі". Мяне тады хораша ўразіла такая дзіўная і прыгожая назва часопіса і асабліва яе паэтычнасьць. Тут жа напісаўся верш-фатаграфія пра Полацак:

Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі
І піша Слова
Ў кельлі сьветлай
Малады манах.

У Амэрыцы я ўбачыў гэты часопіс, які выдаваўся ў беларускім лягеры Рэгензбург на ратапрынце з самадзейнымі, маляванымі ад рукі, вокладкамі і напісанымі шрыфтамі.

Уражвае таксама тое, што было шмат маладзёвых часопісаў і асабліва друкаў скаўцкай арганізацыі. Скаўтаў -- вось што трэба адраджаць для моладзі ў Беларусі.

Намэнклятура зьместу і назоваў таго асаблівага друку ўзьнёслая, бадзёрая і аптымістычная. Яна дакладна адбівала накірунак думак, дух і волю таго здаровага пакаленьня, якое сфармавалася ў час вайны і змаганьня за Беларусь, за волю, Бацькаўшчыну і свабоду.

У ДАДАТКУ я падаю некалькі выбраных вокладак з гэтых друкаў ў чорна-белай здымцы, хаця амаль усе яны на каляровых паперах, з выкарыстаньнем каляровых літар і малюнкаў, што сьведчыць найбольш пра імкненьне выдаўцоў зрабіць, як яны ўяўлялі, усё хораша і прыгожа.

*27 люты 2017 г.* Зянон Пазьняк

№ 5

# РУХ



ЧЭРВЕНЬ

1948

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ

НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ

ДУМКІ



БАРАЦЬБА
ЦЭНТРАЛЬНЫ ОРГАН
БЕЛАРУСКАГА ВЫЗВОЛЬНАГА ФРОНТУ
Кастрычнік-лістапад
№6-7(22-23)
1957 г.
Цана 60 нф.

# СІЛА ВЕРЫ



Манастырская царква Дабравешчаньня ў Супрасьлі з 1495 г. пабудаваная баярамі Хадкевічамі ХУ ст.

# 1964

# НАПАГАТОВЕ



ЧАСАПІС БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ

№ 4-5 КРАСАВІК - ТРАВЕНЬ



# НАПАГАТОВЕ



71

**ЧАСАПІС БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ**

**МІХЕЛЬСДОРФ 1948г.**

# Беларускі скаўт

ГОД I ЧАСАПІС ПЕРШАГА СЬЦЯГУ № 1




Ватэнштэт 1946г.



# НАПАГАТОВЕ 71

ЧАСАПІС БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ



№ 2-3

ЛЮТЫ-САКАВІК 73

ГОД ВЫД. I

МІХЕЛЬСДОРФ 1947 г.



Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне
Студэнцкі
Шлях
Вучыся, працуй і змагайся
Мюнхэн 1947




74

НА ПРАВОХ РУКАПІСУ

# МОЛАДЗЬ

Часапіс беларускае моладзі ў Францыі

MENSUEL DE LA JEUNESSE BIELORUSSIENNE EN FRANCE

— Paris —

Год. выд. II   САКАВІК · 1949   № 9




З нагоды Нацыянальнага Сьвята 25 Сакавіка, засылаем Вам, дарагія суродзічы, найлепшыя пажаданьні плённае працы над зрэалізаваньнем ідэі незалежнасьці Беларусі.

Рэдакцыя.

# Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі

№ 3

Красавік 1946 г.

Часапіс праваслаўных беларусаў





Рэгенсбург.

# На варце.





БВФ.

АЎСТРАЛІЯ.




*Вокладка паэмы Міхася Машары «Сьмерць Кастуся Каліноўскага»*

# У вырai



**Часапіс літаратурнага гуртка**
**Беларускае гімназіі ў Баварыі**

**N1** Рзгенсбург - Міхельсдорф **1947г.**




ČYKAHO 1953

VYDANNIE BIEŁARUSKAJE MOŁADZI PRY B.A.N.R.

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

# АПОКРЫФ



1946



БАРЫСАГЛЕБСКІ САБОР ДА 1875 г.



БАРЫСАГЛЕБСКІ КАТЭДРАЛЬНЫ САБОР у Наваградку пасьля 1875 г. Рэзыдэнцыя Літоўскім Прав. Мітрапалітаў. Выгляд пасьля рэмонту 1875 г.

81







ПОЛАЦК - 862 - 1293 -- 1563 - 1863 - 1963 гады з гісторыі Беларусі.

Памяткі Полацку : Манастырская царква Хрыста-Спаса ў Сяльцы Сьв. Эўфрасіні Вуліца ў Полацку ; Агульны выгляд Полацку ў 1863 г., над рэчкай Дзьвінсой.

*Маляваныя аздобы ў часопісе*



СЬВ. ЦІМАФЕЙ, кн. Пскоўскі зроду князёў Гальшанскіх. Памёр 1299 г. Памяць яго сьвяткуецца 25.5 мес.



Кн. Іван Гальшанскі, што быў забіты Казімерам Ягайлавічам 1481 г. разам з кн. Міхасём Слуцкім....

МЕСТА МІР - па дарозе з Наваградка да Нясьвіжа. У летапісах яно запісана ў 1395 г. Тут знаходзіліся маемасьці пра васлаўнага роду сям'і ІЛЬЛІНІЧАЎ, што на пачатку 16 стг. пабудавалі прыгожы замак. Па лініі родства ў 1569 г. гэты замак перайшоў да кн. Радзівілаў. У 19-13 г. да кн. Віттэнштэйна, а ў апошні ча кн. Сьвятапол-Мірскіх. Падчас 1812 г. быў моцна пашкоджаны ў вайне з Францу зямі, цяпер у большай частцы адбудаван і перахоўваецца, як памятнік старажытнасьці з гісторыі В. Кн. Літоўскага. Ста іць над возерам і пры рэчцы



СЬВ. ЮЛЬЯНА - Чарніца Князёўна Гальшанская.






ЖЫРОВІЦКІЯ ПАМЯТКІ : (1) УСПЕНСКАЯ ЛАЎРА Ў ЖЫРАВЕ, 1760 г. (2) КОПІЯ ЦУДАДЗЕЙНАГА АБРАЗА, ШТО ЗЬЯВІЎСЯ Ў 1470 г.на ігрушы пасташкам, у павялічаным выглядзе. (3) Легендарная зьява Праўсьвятой Багародзіцы на Каменю 1520 г.дзе, ткам, як згарэла ў гэтым годзе першая царква. (4) Выгляд з фронту царквы, што яе пабудавалі 1672 г.над Каменям. Манастырская гробніца ігуменаў, у якой Камень ёсьць Прыстолам для адпраўляньня Сьв.Літургіі.

# ШАРСЬЦЕНЬ

The Hornet Die Hornisse

Незалежны месячнік гумару і сатыры

№. 5 ЛЮТЫ 1953 ГОД II




## «Ангел міру»



Пад маскай ангела й сарочкай  
Ня змог схаваць сябе крывавы дзед:  
Вецер падуў і — стала відавочна,  
Што зь пекла родам людаед...

Студзень, Люты, Сакавік, 1956 год. Год выданьня II

# НА ВАРЦЕ № 4.










**БРАТЫ, ДА ШЧАСЬЦЯ МЫ ПАДХОДЗІМ,**
**ХАЙ ГРОМ ГРЫМІЦЬ ЯШЧЭ МАЦНЕЙ,**
**У КРЫВАВЫХ МУКАХ МЫ НАРОДЗІМ**
**ЖЫЦЬЦЁ РЭСПУБЛІКІ СВАЕЙ !**

Інфармацыйны часапіс БВФ. Выдаецца квартальна на правох рукапісу.

Сэктар прэсы і прапаганды БВФ у Аўстраліі.

# Кнігі, выдадзеныя Зянонам Пазьняком за мяжой

1. Зянон Пазьняк. Камунізм як форма рускага імпэрыялізму. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2000 г.
2. Зянон Пазьняк. Новае стагоддзе. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2002 г.
3. Зянон Пазьняк. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2003 г
4. Зянон. Вялікае Княства. -- Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2005 г.
5. Зянон. Вялікае Княства (2-е выданьне). -- Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.
6. Зянон. Беларуска-Расейская вайна. Belarus is easten outpost. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2005 г.
7. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі. -- Нью- Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы», 2005 г.
8. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі (2-е выданьне). -- Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.
9. Сяргей Навумчык. Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988 – 1995). -- Варшава, 2006 г.
10. Галіна Пазьняк. Беларусь у сэрцы. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.
11. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. -- Варшава, 2007 г. (Містыфікацыя. Выдадзена ў Беларусі, 1/16 д.а., 60 с.).
12. Зянон. Дарога. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.
13. Зянон Пазьняк. Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 1, артыкулы і матэр'ялы (1990 —III.1996). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.
14. Парсіваль (2-е выданьне). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2009 г.
15. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2009 г. (1/32 д.а., 192 с.)
16. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 2, артыкулы і матэр'ялы (IV.1996—2002). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
17. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Працяг. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 3, артыкулы і матэр'ялы (2003--2010). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
18. Сяргей Навумчык – Зянон Пазьняк. Дэпутаты Незалежнасьці. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
19. Зянон Пазьняк. Дэклярацыя – першы крок да Незалежнасьці. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
20. Зянон Пазьняк. Сэсія Незалежнасьці. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2011 г.

21. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць Беларусі. 20 гадоў. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2011 г.

22. Зянон Пазьняк, Валеры Буйвал. Абарона Курапатаў. Народны Мэмарыял. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2012 г. 88

23. Зянон Пазьняк. Добрая фатаграфія. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.

24. Галіна Пазьняк. Менскі гарсавет у пэрыяд нацыянальнай рэвалюцыі (1990-1991). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.

25. Зянон. Тэрра Дэй. -- "Беларускія Ведамасьці", -- Варшава, Нью Ёрк, Вільня, 2014 г.

26. Zenon. OJCZYZNA WIECZNA. -- "Беларускія Ведамасьці", -- Warszawa, 2014.

27. Аўген Калубовіч. Мова ў гісторыі Беларускага пісьменства. (Факсімільнае выданьне. Прадмова да факсіміле – Зянон Пазьняк). -- Варшава «Беларускія Ведамасьці», 2015 г.

28. Зянон. Палын-палын…-- Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2016 г.

29. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць 87 – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2016 г.,

30. Zenon. TERRA DEI. – New York, Warszawa, – «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), "Беларускія Ведамасьці", 2017 г.

31. Зянон. Глёрыя Патрыя. – Вільня, 2000 г.

32. Даніэль Дэфо. Рабінзон Круза. (Факсімільнае выданьне. Прадмова і пасьляслоўе – Зянон Пазьняк). – Нью Ёрк – Варшава, – БВТА, «Беларускія Ведамасьці», – 2017 г.

# Зьмест

Даніэль Дэфо

# РАБІНЗОН КРУЗА

*Факсімільнае літаратурна-асьветніцкае выданьне для моладзі*

*Надрукавана за кошт выдаўцы*

**Даніэль Дэфо. РАБІНЗОН КРУЗА.** Факсімільны друк з выданьня:
*Даніэль Дэфо. РАБІНЗОН КРУЗА.* Ватэнштэт, 1947 г.
Выданьне Беларускага Дапамаговага Камітэту.
Пераклаў з ангельскай мовы на беларускую С. Коўш.
Прадмова, пасьляслоўе, дадатак да факсіміле і выданьне Зянона Пазьняка. –
БВТА, «Беларускія Ведамасьці». – Нью-Ёрк, Варшава – 2017 г.
92 с. іл., Фармат US Letter (A4), накл. 300 ас.
ISBN 978-83-935476-3-0

Сканаваньне, прадмова, пасьляслоўе,
і кампутарны склад – *Зянон Пазьняк*
Друк: "Lulu"
Папера афсэтная – Standard Paperback
Фармат: US Letter, Quality: 50#
Наклад 300 ас.
Аб'ём: 92 с.
Выдрукавана сакавік 2017 г.

**ISBN 978-83-935476-3-0**

